PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 11 (1870) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 15 САКАВІКА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.




На бельскім небасхіле ўспыхнула „Маланка".

## Жыць беларускай песні!

„Беларуская песня '92" неспадзявана і з гукам раскалола цішыню беластоцкай рэчаіснасці. Людзі ўжо неяк прыціхлі, здавалася, апусцілі крылы, прызвычаіліся да шэрасці. **Неспадзявана** — бо ў ніводнай беластоцкай штодзённай газеце не было паведамлення аб маючым адбыцца 29 лютага ў зале Беластоцкай філармоніі цэнтральным аглядзе „Беларуская песня '92". Але і так людзі на двух гала-канцэртах занялі ўсе крэслы і стаялі ў праходах. **З гукам** — таму што імпрэза выйшла велізарная і добра падрыхтаваная, нягледзячы на ўсе песімістычныя прагнозы, якія вынікалі з камплікацый сённяшняга беларускага жыцця ў Польшчы. Арганізацыя Беларускім грамадска-культурным таварыствам такой імпрэзы была б немагчымай без несамавітай, агромністай адданасці беларускай песні. І ... без дапамогі шматлікіх спонсараў, а перш за ўсё польскага Міністэрства культуры і мастацтва, якія сфінансавалі гэта мерапрыемства. Між іншым, далажыліся такія спонсары, як Беластоцкі ваявода, фірма „Унібуд" з Бельска, фірма „Сонель" з Беластока, суполка з Бельска „Бексімполь", Ваяводскі асяродак анімацыі культуры, рэдакцыя „Нівы", а таксама Беларускі фонд культуры, Міністэрства культуры і Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

На ніводным аглядзе дагэтуль не было столькі знакамітых гасцей, як на гэтым: архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі прафесар Сава, віцэ-міністр культуры і мастацтва Польшчы Міхал Ягела, першы высокі госць з незалежнай Рэспублікі Беларусь — міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, намеснік старшыні таварыства „Радзіма" Уладзімір Навіцкі, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Рылатка, дэлегацыі Міністэрства культуры Беларусі, Міністэрства адукацыі, прадстаўнікі Беларускага фонда культуры і іншыя. У зале прысутнічала шмат святароў, а таксама паслоў Беластоцкай зямлі.

Журы конкурсу было міжнароднае: Андрэй Бандарэнка — кампазітар і музыка з Гародні, а. Юры Шурбак — з Варшавы, ад дваццаці гадоў кіраўнік Ансамбля царкоўнай музыкі Варшаўскай камернай оперы, і добра вядомы беластачанам Ежы Сьрудкоўскі, выкладчык Беластоцкай музычнай школы, былы яе дырэктар. Журы магло б быць яшчэ больш знакамітае, але ў яго працах не ўзялі, на жаль, удзелу мінчане, якія мелі быць у журы: Ігар Лучанок — старшыня Саюза беларускіх кампазітараў, ды Уладзімір Мулявін — кіраўнік ансамбля „Песняры".

Журы сёлета мела поўныя рукі працы. Сапраўды было што ацэньваць! А пры гэтым напаткала і на цяжкасці: зашмат было „роўных" выканаўцаў.

Прагучала ў аглядзе каля 90 песень, а выканаўцаў — не злічыць. Выступалі і тыя, што пачыналі калісьці, што расспявалі асяроддзе, такія, як Люба Гаўрылюк, Юры Налівайка, Ала Дубец, гарадоцкі хор, іншыя вясковыя фальклорныя групы, — і адносна новыя, пераважна маладыя ўдзельнікі конкурсу „Беларуская песня" — абаяльная Ірэна Лукша (няхай сабе ў джынсавай спадніцы) з якімі ж стара даўнімі і мілагучнымі беларускімі народнымі песнямі; рэвеляцыйная Эля Сушко з Варшавы, якая пакуль што вучыцца вакалістыцы ў сярэдняй музычнай школе ў класе Галіны Сланіцкай, але марыць пра кансерваторыю; гданьскія спевакі на чале з іх нястомным кіраўніком Ірынеем Лаўрашуком, які кіруе таксама варшаўскімі самадзейнікамі;

( Працяг на стар. 6 )

## ЯК БУДУЕЦЦА БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ

— Калі б кожная беларуская сям'я на Беласточчыне ахвяравала на гайнаўскі музей 50 тысяч злотых, дазволіла б гэта закончыць яго пабудову, — так, прынамсі, гаворыць спадар Канстанцін Майсеня. — Але людзі не ахвяроўваюць, — зараз жа дадае ён. — Шмат хто альбо ўвогуле нічога не чуў пра беларускі музей, альбо не ведае, дзе ён знаходзіцца. Пачынаць трэба з самага асноўнага.

Музей помнікаў беларускай культуры (альбо звычайна Беларускі музей) знаходзіцца ў сучасным цэнтры Гайнаўкі, пры вуліцы 3-га Мая. У суседстве музея — гарадская і гмінная ўправы ды прадпрыемства камунальнай гаспадаркі. Музей будуецца грамадскімі намаганнямі.

— Ідэя беларускага музея ў Польшчы, — расказаў мне старшыня Грамадскага камітэта пабудовы Канстанцін Майсеня, — выводзіцца з таго часу, калі ўзнікла першая беларуская арганізацыя ў Польшчы: Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Ужо ў той час чуліся галасы, што на Беласточчыне патрэбны беларускі музей. Дзякуючы старанням беларускага актыву ўзнік першы такі музей, у Белавежы. Існаваў ён некалькі гадоў, памяшканні ў ім былі неадпаведныя ды тадышнія ўлады загадалі яго зачыніць — экспанаты трапілі ў польскія музеі ў Цеханоўцы, Беластоку і Белавежы. Улады абяцалі: калі будзе адпаведнае на музей памяшканне, экспанаты вернуцца. Быў гэта пачатак сямідзесятых гадоў. Старанні дзеля адпаведнага памяшкання не прынеслі выніку — на пачатку васьмідзесятых беларусы пастанавілі былі будаваць свой музей у Белавежы, былі распачаты некаторыя дзеянні, але нічога не выйшла. Справа музея надалей заставалася актуальнай.

— У 1983 годзе, — расказаў далей Канстанцін Майсеня, — працаваў я тады ў Галоўным праўленні БГКТ, удалося пераняць два памяшканні пасля прадпрыемства прадукцыі мазаікі і паркету ў Гайнаўцы. У перыяд ад 1983 да 1986 г.г. стваралася дакументацыя музея. Выканаў яе „Miastoprojekt" у Беластоку пад кіраўніцтвам архітэктара Яна Кабаца. У 1987 годзе распачалася пабудова музея — цягнецца яна да сёння. Будуе музей Бельска-Падляшскае будаўнічае прадпрыемства.

Сёння закончаны ўжо два аб'екты музея, вядзецца пабудова трэцяга, гэтак званага ўласцівага музея —

( Працяг на стар. 3 )

НА мяжы

## РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ

**Частка VII**

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Адраджэнне і развіццё беларускай духоўнасці, у тым ліку і духоўнасці рэлігійнай, з'яўляецца для Беларусі такой неабходнасцю, як і само жыццё. На жаль, у адваротнасці да па сутнасці аднарэлігійнай Польшчы, Беларусь з'яўляецца народам некалькі -рэлігійным і ў гэтым яе бяда, але і надзея. Бяда ў тым, што рэлігійная разрозненасць можа весці да канфліктаў, надзея ў тым, што рэлігіі са сваімі рознымі філасофіямі і культурамі могуць узбагачаць духоўна нацыю, напаўняючы яе жыццё плюралістычнымі ідэямі і ідэаламі.

Аднак, элементаў так званай хрысціянізацыі Беларусі, хаця я яе і прапагандую, баюся. Боязь мая бярэцца адтуль, што можа паявіцца змаганне паміж прадстаўнікамі розных веравызнанняў. Ужо да нас даходзяць водгуллі розных злачынных дзеянняў на рэлігійнай глебе ў Заходняй Украіне. Было б вялікай бядой, калі б нешта падобнае паявілася і на нашай зямлі. І паявіцца, асабліва тады, калі рэлігіі не будуць атаясамлівацца з адной беларускай нацыяй, а толькі з палякалі і рускімі. Паміж палякамі і рускімі, пачынаючы ад XI стагоддзя, вядзецца жорсткая барацьба за ўплывы. Каталіцкі польскі касцёл і праваслаўная руская царква заўсёды памагалі сваім каралям, царам і ўрадам у гэтым змаганні. Было б няшчасцем, калі б праваслаўная царква і каталіцкі касцёл на Беларусі прадаўжалі традыцыю змагання за ўплывы на жывой субстанцыі беларускай нацыі. Якраз з гэтай прычыны ідэя царквы і касцёла мае такое вялікае значэнне.

На жаль, зародкі рэлігійнай нянавісці ў беларускім жыцці выступаюць ужо сёння. Прыкладам можа быць эміграцкі праваслаўны часопіс „Голас часу", які выдаецца спадаром Весялоўскім. Весялоўскі са сваёй сякернай філасофіяй зайшоў так далёка, што ў адным з апошніх нумароў „Голаса часу" робіць з мяне прыхільніка уніі, хаця я ніколі ў жыцці не думаў і не думаю выракацца сваіх праваслаўных карэнняў. Баюся, што гэта толькі пачатак злога. Канкуруючыя рэлігіі могуць перасварыць беларускі народ на многія гады. Рэлігійныя бойкі паміж рэлігіямі, мясцовасцямі, урэшце сем'ямі былі б вялікім няшчасцем для такой слабой пакуль што нацыі, як нацыя беларуская. Сёння патрэбная згода і гармонія і здавалася б, што рэлігія ці рэлігіі якраз і створаны для таго, каб сяліць у сэрцы людзей мір. Аднак Ліван, Ірландыя і Югаславія дастаўляюць доказы на тое, што рэлігіі могуць быць носьбітамі сатанічнай нянавісці і дзікага трыумфу сілы. Будзем верыць, што так яно не будзе ў Беларусі і дзейнічаючыя тут рэлігіі прычыняцца да нацыянальнай кансалідацыі беларускага народу. Зразумела, што так яно станецца толькі тады, калі духоўнікі на той самай прыярытэтнай плоскасці будуць ставіць рэлігійныя і нацыянальна-беларускія ідэалы.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

---

## З мінулага тыдня

У днях 5—7 сакавіка г.г. прабывала ў Польшчы дэлегацыя **Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь**. Міністры нацыянальнай адукацыі Польшчы праф. **Анджэй Стэльмахоўскі** і Беларусі — праф. **Віктар Гайсёнак** падпісалі пагадненне аб развіцці адносін у галіне асветы паміж абедзвюма краінамі. У выніку гэтага пагаднення кожны год 20 настаўнікаў будзе выязджаць на павышэнне кваліфікацый у Менск, вучні з Беласточчыны будуць паступаць на навуку ў ВНУ Беларусі, нашым беларускім школам будуць пастаўляцца падручнікі, дапаможнікі і мастацкая літаратура. 6 сакавіка міністр Віктар Гайсёнак сустрэўся ў Беластоку з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый, затым наведаў Бельск-Падляшскі, Гайнаўку, Белавежу і Чыжы.

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі прафесар Сава наведаў Агульнаадукацыйны ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча і Пачатковую школу н-р 3 у Бельску-Падляшскім**. Пад час спаткання з настаўнікамі уладыка Сава цікавіўся праблемамі школ і поспехамі ў навучанні. З вучнямі IV класаў ліцэя госць размаўляў аб сітуацыі ў краіне і аб перспектывах маладых, якія ўваходзяць у дарослае жыццё.

Пад час кангрэсу прадстаўнікоў маладзёжных арганізацый Польскай сацыялістычнай партыі (ППС) вырашана стварыць **Маладзёжную арганізацыю ППС**. Яе старшынёю выбраны **Пётр Нічыпарук** з Рыбалаў, студэнт III курса юрыдычнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

**У Ваяводскай управе ў Беластоку** адбылася сустрэча пяці ваяводаў (з Ломжы, Сувалак, Ольштына, Астралэнкі і Беластока) — удзельнікаў пагаднення „Зялёныя лёгкія Польшчы". Тэмай спаткання была падрыхтоўка да пленарнага пасяджэння Праграмнанавуковай рады, якое адбудзецца 27-28 сакавіка г.г. у Віграх. Прысвечана яно будзе супрацоўніцтву ў галіне экалагічнага развіцця ва Усходняй Еўропе. У пасяджэнні ўдзельнічаць будуць прадстаўнікі пасольстваў і зацікаўленых міністэрстваў Расіі, Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі.

У чацвер, 5 сакавіка а 8 гадзіне, у паліцыю патэлефанаваў невядомы чалавек і паінфармаваў, што ў **Святамікалаеўскім саборы па вул. Ліповай у Беластоку падложана бомба**, якая праз 2 гадзіны ўзарвецца. Неўзабаве ў царкву прыехала дваццаць паліцыянтаў і пажарніцкі самаход. На шчасце, інфармацыя аказалася фальшывай — антытэрарыстычная брыгада бомбы не знайшла. У апошніх днях паліцыя таксама шукала **бомбу** ў Фарным касцёле і будынку Ваяводскага суда.

**Камітэт аховы правоў дзіцяці** заявіў, што трэба зрабіць усё магчымае, каб сіроты з ваколіц Чарнобыля, якія прабываюць у Польшчы і знайшлі апеку ў польскіх сем'ях, маглі як найдаўжэй заставацца ў нашай краіне. Беларускія ўлады патрабуюць неадкладна вярнуць іх на радзіму, але на гэта не згаджаюцца самі дзеці і іх новыя апекуны. У Польшчы зараз знаходзіцца **трыццаць** такіх дзяцей.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### РАЗЫШЛІСЯ З МІРАМ

23 лютага ў Менску адбыліся адразу два мітынгі. Прычым, на гэты раз на вуліцы беларускай сталіцы выйшлі дзве непрымірымыя палітычныя сілы — дэмакраты і зацятыя камуністы.

Праўда, сутычак паміж мітынгоўшчыкамі, дзякуй Богу, не было. Прыхільнікі БНФ, што сабраліся на плошчы Незалежнасці, каб падтрымаць рэферэндум аб адстаўцы Вярхоўнага Савета рэспублікі, пасля мітынгу мірна разышліся па дамах. Не рызыкнулі пайсці ў „рашаючы бой" і ваяўнічыя камуністы, якія, дарэчы, наладзілі свой чырвонасцяжны мітынг у гонар 74-й гадавіны Савецкай Арміі.

### БУДЗЕМ СЯБРАВАЦЬ ПАРТЫЯМІ

Днямі ў Менску сустрэліся прадстаўнікі сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Абодва бакі выказалі зацікаўленасць у далейшым развіцці адносін паміж дзвюма партыямі.

### ВУЧЫЦЦА НІКОМУ НЕ ПОЗНА

Супрацоўнікі праваахоўных органаў рэспублікі ў хуткім часе пачнуць весці пратаколы допытаў абвінавачваемых і сведкаў на беларускай мове.

Зараз вартаўнікі грамадскага парадку актыўна вывучаюць дзяржаўную мову Беларусі. Напрыклад, для супрацоўнікаў транспартнай міліцыі ўжо набыта 250 асобнікаў расейска-беларускіх слоўнікаў і падручнікаў беларускай мовы.

Дарэчы, не такая страшная беларусізацыя, як аб ёй часам гавораць. Скажам, у пракуратуры рэспублікі працуе 960 беларусаў, якія дасканала валодаюць роднай мовай, а гэта між іншым, 75 працэнтаў ад агульнай колькасці следчых і пракурораў Беларусі.

### СУПОЛЬНІЦТВА НАМ ДАПАМОЖА МОЖА

Два дні ў Рэспубліцы Беларусь знаходзілася дэлегацыя Камісій Еўрапейскага Супольніцтва на чале з віцэпрэзідэнтам Францам Андрыесанам.

Пад час гэтага візіту было абмеркавана прамежкавае пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Супольніцтвам.

І яшчэ. Як адзначыў спадар Андрыесан, Еўрапейскае Супольніцтва, мажліва, дасць Беларусі пазыку ў суме 125 мільёнаў амерыканскіх долараў для набыцця за мяжой харчавання і лекаў.

### САЮЗ МОЛАДЗІ РАЗВІТАЎСЯ З „МАЛАДОСЦЮ"

Цэнтральны камітэт Саюза моладзі Беларусі адмовіўся ад заснавальніцкіх правоў на часопіс „Маладосць".

Адна з прычын, якая прымусіла былых камсамольцаў развітацца з „Маладосцю" — нерэнтабельнасць беларускамоўнага часопіса. Цяпер Саюз моладзі пэўна не збяднее, а вось многія беларускія юнакі і дзяўчаты могуць страціць адно з і без таго нешматлікіх выданняў на роднай мове, бо ахвотнікаў вытратаваць „Маладосць" пакуль не знайшлося.

### „БЕЛАЯ СМЕРЦЬ" ПАЎЗЕ НА БЕЛАРУСЬ

Як сведчыць крымінальная статыстыка, наркаманія апошнім часам хутка распаўсюджваецца, на жаль, і ў нашай рэспубліцы. Толькі ў мінулым годзе выяўлена 516 злачынстваў, звязаных з набыццём і захаваннем наркотыкаў. Гэта амаль у 4 разы больш у параўнанні з 1987 годам. Натуральна, што ўзрасла і колькасць наркаманаў. Зараз толькі на ўліку ў міліцыі знаходзіцца 1000 аматараў наркатычнага зелля. Рэальна ж людзей, ужываючых гэту атруту, у Беларусі не менш за 10 тысяч.

### ПТУШАНЯТЫ ГНЯЗДА ШУШКЕВІЧАВА

Хутка на Беларусі з'явіцца яшчэ адна палітычная партыя. Завадатары яе стварэння — народныя дэпутаты-цэнтрысты, кумірам якіх з'яўляецца Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч.

Новая палітычная арганізацыя будзе мець назву „Партыя народнай згоды". Яе лозунг: праз згоду — да рэформаў, праз рэформы — да выйсця з крызісу.

Што ж, намеры ў новай партыі неблагія. Вось толькі ці здолее гэта палітычная сіла іх ажыццявіць?

### ДАРАГАЯ СЯБРОЎКА МАЯ

Аб'яднаная дэмакратычная партыя рэспублікі распрацавала новую мадэль агульнай паліўнай базы для Беларусі, Украіны і дзяржаў Балтыі. У аснове гэтага праекта закладзена ідэя стварэння трансеўрапейскага нафтаправада, што дазволіць перапрацоўваць не толькі беларускую нафту, але і „чорнае золата", якое здабываюць на Блізкім Усходзе і ў Паўночным моры.

Магчыма, гэтая канцэпцыя і прыцягне ўвагу кіраўніцтва рэспублікі, бо наш адзіны пастаўшчык нафты — Расея — нахабна ставіць зусім нявыгадныя для Беларусі ўмовы, патрабуючы расплочвацца за нафту мясам.

Прычым, памяняўшы па дыктуемай расейцамі схеме мяса на нафту, Беларусь страціць у год каля 17 мільярдаў долараў.

Дык чаму ж нам не пашукаць лепшага кампаньёна?

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Беларускія міністры на Беласточчыне.
* Яшчэ два словы пра песню.
* Святыя беларускай зямлі –св. Аўраам Смаленскі.
* „Мемуары" Яна Пятроўскага.
* Байлюлюканне Сідара Макацёра.

## СПАТКАННЕ З ПАСЛОМ ЯУГЕНАМ ЧЫКВІНЫМ

Па ініцыятыве Клуба беларускай інтэлігенцыі 16 сакавіка 1992 года (панядзелак), а 18 гадз. у памяшканні ГП БГКТ у Беластоку (вуліца Варшаўская 11) адбудзецца сустрэча з паслом Яўгенам Чыквіным – намеснікам старшыні Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцяў. Тэма сустрэчы – праблемы нацыянальных і рэлігійных меншасцяў у Сейме.

Арганізатары запрашаюць усіх зацікаўленых. Уваход свабодны.

## Помнікі культуры

# ЦЭРКАЎКА Ў КОЗЛІКАХ

На абрывістым беразе адгалінавання ракі Нарва размяшчаецца цэркаўка. Надпіс, высечаны на бэльцы над уваходнымі дзвярыма ў святыню, паказвае, што была яна збудавана ў 1793 годзе (прыгадаем тут, што першыя пісьмовыя весткі пра Козлікі паходзяць з 1576 года). Царкву ўзвялі ў гэтым месцы невыпадкова. Стаіць яна каля чатырох старажытных курганоў, абведзеных равамі. Кожны з іх мае чатыры метры даўжыні і метр вышыні, усе яны авальнай формы. Аўтар „Археографической Карты Гродненской губернии" заўважае, што пад час стаянкі войскаў у шасцідзесятых гадах XIX стагоддзя адзін курган раскапалі і знайшлі там людскія косці, кавалак кап'я і медныя манеты. На сто гадоў пазней, калі прыхаджане будавалі паркан і трэба было раскапаць адзін з курганоў, таксама ў ім былі знойдзены людскія косці.

Калі ў васьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя будавалі новую прыхадскую царкву ў Кленіках, цэркаўка ў Козліках выконвала ролю прыхадскога храма. Пасля збудавання новай царквы ў Кленіках старую разабралі, а частку абсталявання перадалі ў філіяльную царкву ў Козліках.

Пад канец мінулага стагоддзя жыхары Козлікаў прыдбалі вапну з мэтай будаваць новую мураваную царкву. Ініцыятарам гэтай задумы быў прыхаджанін імём Анціп, вывезены ў глыб Расіі за дапамогу паўстанцам 1863 года, якія стаялі тут над ракой Нарвай. Аднак, намер пабудаваць новую мураваную царкву не быў здзейснены і старая драўляная царква асталася. Ходзяць чуткі, што старыя райскія вароты з іканастаса ў Козліках захаваліся і зараз знаходзяцца яны ў могільнікавай царкве ў Грыневічах каля Бельска-Падляшскага.



Сярод каштоўных прадметаў, ахвяраваных царкве ў Козліках у пачатку XX стагоддзя, знаходзяцца тры званы (разам важаць яны 8 пудоў і 12 фунтаў) і ікона св. Мікалая. Зараз царква дагледжана вернікамі, пастаянна ўзбагачаецца прадметнымі ахвяраваннямі. У царкве захавалася многа цікавых старадаўніх рухомасцяў з XIX стагоддзя аўтарства народных умельцаў.

У гонар тысячагоддзя Хрышчэння Кіеўскай Русі на царкоўным пагосце ва ўсходняй яго частцы быў узведзены памятны крыж, які выканаў вядомы разбяр Уладзімір Наумюк з Канюкоў. Паўднёвы бок пагоста ўпрыгожвае крыж-капліўчка, узведзены ў гонар прыхаджаніна Анціпа і настаяцеля Кленіцкага прыхода а. Яна Хлябцэвіча, які служыў тут да I сусветнай вайны. Зараз царкоўка знаходзіцца пад апекай а. Аляксандра Высоцкага.

У міжваенны перыяд царкоўным старастам у Козліках быў мясцовы гаспадар Мітрафан Ваўранюк. Пасля яго гэту функцыю выконваў Ян Семянюк, а апошнім часам старастам з'яўляецца таксама жыхар гэтай вёскі Аляксей Аўсянюк.

**Р. С.**

**Фота Аляксандра Максімюка**

## ЗАПРАШЭННЕ НА АГЛЯД

Асяродак культуры „Арсус", Аддзел культуры Раённай управы Варшава-Ахота супольна з Міністэрствам культуры і мастацтва арганізуе агляд культурных дасягненняў нацыянальных меншасцяў. Агляд плануецца правесці ў кастрычніку 1992 г. У рамках гэтага мерапрыемства будуць прэзентавацца мастацкія працы, друк, паэтычная творчасць, праводзіцца аўтарскія сустрэчы, агляды тэатральных і музычных калектываў.

Арганізатары такім чынам могуць зрабіць першы крок у напрамку азнаямлення грамадства з укладам розных нацыянальных груп у польскую культуру, і хочуць, каб быў гэта важны крок у кірунку талерантнасці.

Заявы ад прыватных асоб і арганізацый аб удзеле ў мерапрыемстве арганізатары прымаюць да 30 сакавіка г.г. Дэталёвыя інфармацыі можна атрымаць у Варшаве па тэл. 662—76—26 (пані Гражына Зачэк). Адрас для карэспандэнцыі: Ośrodek Kultury „ARSUS", 02—495 Warszawa, ul. Traktorzystów 14.

**На спартыўнай ніве**

### НАЙЛЕПШЫЯ

Гарадскі асяродак спорту і рэкрэацыі ў Бельску-Падляшскім арганізаваў чэмпіянат горада па шахматах і настольным тэнісе. У шахматным спаборніцтве пераможцам стаў Юры Усакевіч. Чарговыя — ад другога па шостае месцы — занялі А. Тапалеўскі, Ф. Татарчук, Я. Земцаў, В. Рагазінскі і С. Сахарчук.

У розыгрышах у настольны тэніс вылучаліся перш за ўсё Канстанцін Алексяюк (першае месца), М. Валкавыцкі, М. Алексяюк, Р. Дзмітрук, К. Цар і П. Грыгарук.

Найлепшым уручылі кубкі бурмістра. (ЯЦ)

# ЯК БУДУЕЦЦА БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ

( Працяг са стар. 1 )

зробленыя ў сырым стане першы і другі яго паверхі. Дагэтуль пабудова паглынула каля сямі мільярдаў злотых, дзеля завяршэння неабходна яшчэ мільярды тры. Калі б гэтыя грошы былі, дазволіла б гэта закончыць музей яшчэ ў гэтым годзе, а так, калі не будзе ніякай дапамогі, пабудова музея спыніцца з днём 15 сакавіка.

Польскі ўрад дафінансаваў пабудову музея на суму паўтара мільярда злотых. Рэшта коштаў — гэта ахвяраванні беларусаў Беласточчыны, беларускай эміграцыі і дапамога з Беларусі. У Беларусі спрыяюць гайнаўскаму музею Беларускі фонд культуры, Таварыства „Радзіма" і Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" — дапамагаюць яны галоўным чынам у форме будаўнічых матэрыялаў. У апошні час з'явіліся перашкоды, якія пазбаўляюць гэту дапамогу сэнсу. Справа ў высокіх аплатах за будаўнічыя матэрыялы, якія Беларусь накіроўвае для гайнаўскага музея. На мяжы трэба за ўвесь такі транспарт плаціць залог. Затым даходзіць мыта. Падстава для яго налічвання беларуская фактура на тавар — рубель множыцца на 2110 злотых ды ад гэтай сумы налічваецца мыта (15-20 %). Ад сумы вартасці тавару (у залатоўках) і мыта налічваецца яшчэ 20-25 % падатку. Сума ўсіх аплатаў і вартасці тавару дасягае цаны гэтага ж тавару ў Польшчы. Не было б у гэтым нічога дзіўнага, калі б не факт, што падобная дапамога, якая ідзе з Польшчы ў Беларусь, — свабодная ад такіх аплатаў (усяго 30 рублёў маніпуляцыйнай аплаты, за дакументы). 2 сакавіка міністр замежных спраў Беларусі на сустрэчы з прадстаўнікамі беларускіх арганізацыяў і асяроддзяў сказаў, што справа гэтая знайшла ўжо станоўчае для музея вырашэнне. Трэба спадзявацца, што яго словы апраўдаюцца.



*Канстанцін Майсеня.*

Беларускаму музею ў Гайнаўцы, кажа Канстанцін Майсеня, неабходныя спонсары і фундацыя. Не толькі дзеля заканчэння пабудовы, але і дзеля арганізацыі ды ўтрымання музея. У музеі прадугледжваецца 21 штатная адзінка. Ужо сёння ў музеі думаюць пра тое, каб адчыніць у ім нешта накшталт клуба бізнесмена, які гуртаваў бы зацікаўленых гаспадарчымі пытаннямі людзей. Важнай для музея справай з'яўляюцца экспанаты. Канстанцін Майсеня лічыць, што ў гэтай справе павінны дапамагчы ўсе беларускія арганізацыі.

Пабудовай Беларускага музея ў Гайнаўцы кіруе Грамадскі камітэт. Налічвае ён каля 350 чалавек. Праўленне Камітэта складаецца з 15 чалавек, 7 з якіх складаюць прэзідыум, гэтак званы рабочы гурт. Старшынёю Грамадскага камітэта з'яўляецца Канстанцін Майсеня, а яго намеснікамі Уладзімір Пятрочук і Ян Хіліманюк, членамі прэзідыума з'яўляюцца Мікалай Нікалаюк і Мікалай Клімюк, скарбнікам — Аляксандр Плева, а сакратаром — Панцеляймон Мароз.



*У падвале музея.*

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Фота аўтара**

# ЗМАГАННЕ ЗА ГІМНАСТЫЧНУЮ ЗАЛУ

Дванаццаціасабовы Грамадскі камітэт пабудовы гімнастычнай залы пры Пачатковай школе ў Белавежы, які дзейнічае ад студзеня 1991 г., стараецца ўсялякімі спосабамі памагчы дырэкцыі школы і гміннай адміністрацыі здабыць сродкі на пабудову гэтак патрэбнага дзецям аб'екта. Распаўсюджвае ён ідэю пабудовы сярод мясцовага насельніцтва і на шырэйшым форуме (праз артыкулы ў прэсе, радыёперадачах, лістах у розныя ўстановы). Настойліва шукае спонсараў.

На жаль, цяжкая сітуацыя дзяржаўнага бюджэту, а таксама дзяржаўных устаноў не дазволіла пачаць інвестыцыю ў мінулым годзе. Усё ж такі, у рамках мясцовых дзеянняў, былі куплены амаль усе матэрыялы, патрэбныя для пабудовы ў сырым стане (не хапае толькі часткі апорнай канструкцыі). Выраблены таксама ў лесе ўласнымі сіламі яліновыя жэрдкі, якія перараказала белавежскае надлясніцтва.



Надрукаваныя камітэтам паштоўкі — „цаглінкі” выкарыстоўваюцца пры разліках з тымі, хто пазычае прылады для зямнога тэніса і карыстаецца кортам. Іх размяркоўваюць таксама пад час розных сустрэч і спартыўных мітынгаў. Пры канцы студзеня г.г. надрукаваны дзве паштоўкі (адну рэпрадукуем) з малюнкамі Ежы М. Гутоўскага і Міраслава Вашкевіча; даход з іх продажу будзе падмацоўваць рахунак камітэта. Нейкія сумы былі сабраны пры дапамозе дзвюх скарбонак, расстаўленых у музеі і бюро ПТТК. Найбольш жа грошай удалося сабраць з добраахвотнага падаткааблажэння мясцовымі ўстановамі — комплексам лясных школаў, пачатковай школай, лабараторыяй даследавання млекакормячых ПАН, Лабараторыяй аховы прыроды ІБЛ, Геабатанічнай станцыяй, Домам дзіцяці і Праваслаўным прыходам.

Зараз камітэт вядзе пошукі спонсараў за мяжой (звярнуўся за дапамогай таксама да асяроддзяў беларусаў у ЗША, Канадзе, Францыі і Вялікабрытаніі). Думае і пра ўласную гаспадарчую дзейнасць. Камітэт лічыць, што праз два—тры гады ўсё ж-такі здолее давесці сваю ідэю да таго моманту, калі яна пачне здзяйсняцца. Жадаем такога ходу спраў, заахвочваючы адначасова ўсіх, каму неабыякава фізічнае развіццё белавежскіх школьнікаў (сярод іх шмат беларусаў), да ўспамажэння нават невялікімі сумамі, пералічваючы іх на рахунак Бацькоўскага камітэта пры Пачатковай школе ў: Bank Spółdzielczy w Białowieży, nr 905510—534—132—5, з паметкай „Na budowę sali gimnastycznej”.

**ПЁТР БАЙКО**

✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱

# НАШЫ КАРАНІ

## ПАМІЖ ДВУМА НЕПРЫЯЦЕЛЯМІ

З летапісаў і хронік даведваемся, што пасля панавання выдатнага пашыральніка і апекуна Праваслаўя, князя наваградскага Лаўрэнція-Войшалка, па ягонай волі на княжацкі пасад у Беларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім) у 1266 годзе ўзышоў князь холмска-дарагічынскі Шварн (Сварамір — княскае імя, хроснае — невядомае). Ён быў сынам князя галіцкага Данілы Раманавіча, жанаты з роднай сястрою Войшалка, быў ахвярным і надзейным памочнікам швагра ў барацьбе з ягонымі ворагамі. У часы княжання Шварна ў Наваградку, хоць і кароткага, бо ўсяго чатырохгадовага, спынілася працяглая варажэча і бясконцыя войны паміж Галіцка-Валынскай Руссю і Беларускай дзяржаваю. Для зямель цяперашняй усходняй Беласточчыны настаў час спакою і з'яднання ў адной дзяржаве. Князь і княгіня былі праваслаўнымі, высока цанілі духоўную і выхаваўчую місію Праваслаўнае Царквы і ўсебакова садзейнічалі яе ўмацаванню ў сваёй дзяржаве.

Пасля беспатомнае смерці ў 1270 г. князя Шварна на вялікакняскі пасад у Наваградку ўзышоў дагэтуляшні князь яцвяжскі і дайноўскі Трайдзень, які паходзіў з беларускіх праваслаўных князёў гарадзенскіх, сваяцкіх князям наваградскім. Ён з'яднаў яцвяжскія і дайноўскія землі з Беларускай дзяржавай, а яе заходнія межы абапер на рацэ Буг, калі ў 1274 г. авалодаў Дарагічынам. Трайдзень быў праваслаўным, таксама як яго тры браты, якія загінулі ў абароне беларускае зямлі ад валынскіх князёў, і ягоны сын Рымунд, што пры хрышчэнні атрымаў імя Лаўр.

Часы княжання Трайдзеня (1270-1282) — гэта цяжкае, але пераможнае змаганне супраць смяротных ворагаў маладое Беларускае дзяржавы і яе праваслаўнага насельніцтва. У 1274 і 1277 гадах воям і мірнаму насельніцтву беларускіх, літоўскіх і яцвяжскіх зямель удалося вытрымаць і адбіць нашэсці татарскіх ордаў і паднявольных ім галіцка-валынскіх і рускіх князёў. Варта прыгадаць, што, адступаючы з беларускіх зямель, захопнікі абрабавалі і вывелі ў няволю мноства беларускага насельніцтва, у тым ліку і з зямель сённяшняй Беласточчыны, Бела-Падляшскага і Холмскага ваяводстваў. Нягледзячы на страшэннае аслабленне Беларускае дзяржавы, Трайдзень у 1279 г. усё ж здолеў даць належны адпор захопніцкаму нашэсцю крыжакоў, разбіваючы іх наголаў і забіваючы іхняга магістра (містша) Эрнеста ў бітве пад Кернавам. У гэтай бітве асноўнай вайсковай сілай былі беларускія праваслаўныя воіны.

Крыжакі да праваслаўных адносіліся горш, як да язычнікаў, паганаў. Калі яны ўрываліся ў праваслаўнае паселішча, дык насельніцтва пераважна выбівалі і толькі моладзь бралі ў няволю, дабро рабавалі, а тое, чаго не здолелі забраць — усё да тла знішчалі. З асаблівай раз'юшанасцю абдзіралі і знішчалі праваслаўныя храмы. Гэтак адначасна з узмацненнем захопніцкага націску крыжакоў на Беларускую дзяржаву ўзрастала пагроза для Праваслаўя. Таму з такой самаадданасцю, ахвярнасцю змагаліся нашыя продкі супраць рыцараў з чорнымі крыжамі на плашчах.

Праваслаўныя воі тут, на Пабужжы, Панароўі, Панямонні і Падзвінні працягвалі змаганне сваіх адзінаверцаў, ахвярных абаронцаў праваслаўнага Канстанцінопаля ад рыма-каталіцкага крыжацкага засілля.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱

**Да 60-тых угодкаў выдання**

# „ПЕРШЫЯ ЛАСТАЎКІ” ЯЗЭПА РУШЧАНЬЦА

Збіраючы матэрыялы да сваёй доктарскай працы пра літаратуру Заходняй Беларусі, яшчэ, бадай, у 1986 або 1987 г. я наткнуўся на кніжныя выданні ад 1921 г. Юрыя Кучынскага „Ад мора да мора” і В. Лесавіка „Наша крыўда”, выдадзеныя ў Беластоку, ды вельмі інтрыгуючыя тады мяне „Першыя ластаўкі. Сцэнічны абразок з беларускага жыцця Беласточчыны” (Вільня, 1931). Абмежаваны час навуковай стажыроўкі не дазволіў, аднак, мне адразу з імі пазнаёміцца. Трэба было крыху пачакаць да наступных стажыровак.

Наступным разам, будучы на навуковай стажыроўцы ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР у Мінску, мне ўдалося зрабіць ксеракопію „Першых ластавак”. Твор невялічкі, усяго 24 старонкі невялікага фармату. Тым не менш, не можа ён нас не цікавіць. Зрабіў я тады ксеракопію і наступнага ягонага драматычнага твору з жыцця беларускай моладзі „Зорка-Ідэя”, пазначанага 1933 годам выдання гэтым жа Беларускім Інстытутам гаспадаркі і культуры ў Вільні. Нягледзячы на гэта, даўжэйшы час я не ведаў, хто такі Рушчанец, дзе і калі ён нарадзіўся, чаму якраз пісаў пра беларусаў Беласточчыны. Ці гэта быў ягоны псеўданім, ці сапраўднае прозвішча.

Адкрыццё прыйшло цалкам нечакана ў гэтым годзе. Аказалася, што ёсць пра яго нават салідныя апрацаванні, як напрыклад „Вялікі сын беларускага народу” В. Карасэвіча (на самай справе Я. Тарасэвіча), надрукаванае ў 25 нумары чыкагскай „Беларускай царквы” (ЗША) ад 1963 г., ці менш значныя, але таксама каштоўныя, як „На магілу с. п. айцу прафэсару Язэпу — Атаназу Рэшэцю, осб.”, змешчанае ў выдаваным у Рыме беларускім рэлігійным часопісе „Znič”, у 44 нумары ад студзеня-красавіка 1958 г. Дык хто такі Язэп Рушчанец?..

Як ужо чытач, пэўна, здагадваецца, гэта псеўданім нікога іншага, як Язэпа-Атаназа Рэшэця. Кім і адкуль быў ён?

Нарадзіўся ксёндз Язэп Рэшэць (у законе — Атаназ) 26 ліпеня 1890 г. у вёсцы Рушчаны, што каля ракі Нарвы на захад ад Беластока ў беднай сялянскай сям'і (адсюль назва псеўданіма пісьменніка). Акрамя яго ў бацькоў былі два сыны і тры дачкі. Сям'я Рэшэцяў была каталіцкага абраду, а ягоны дзед Язэп у свой час быў уніятам (перайшоў у рымакаталіцызм пасля скасавання уніі ў 1839 г.). Пачаткова вучыўся ён у вясковай, а пасля, у сувязі з матэматычнымі схільнасцямі, у сярэдняй тэхнічнай школе ў Беластоку. Сям'я Рэшэцяў была глыбока патрыятычнай, а разам з гэтым — і рэлігійнай. Магчыма, што гэта вырашыла пра тое, што скончыўшы тэхнікум з пахвальным дыпломам, падаўся ён у Віленскую духоўную семінарыю ў 1908 г. Вучоба ў семінарыі супала з уздымам у той час беларускага нацыянальнага адраджэння ў Вільні пасля рэвалюцыі 1905 г. Працягваўся ж „нашаніўскі” перыяд культурнага і літаратурнага адраджэння Беларусі, а Вільня была цэнтрам гэтага адраджэння. Прыхільны да яго быў і тадышні Віленскі архіепіскап Эдуард Роп, які дазваляў карыстацца беларускай мовай у першапачатковых вучылішчах (абежнік н-р 4339 ад 22.VIII. 1905 г.).

Працытуйма і самога кс. Яна Тарасэвіча: „У Віленскай духоўнай сэмінарыі Язэп Рэшэць за пяць гадоў свайго побыту зьсяброваўся з гэткімі беларускімі патрыётамі ды пазьнейшымі адраджэнцамі, як: Я. Кажарновіч, К. Бурак, А. Хадыка, Г. Хвастацкі, Я. Семашкевіч, Фр. Рамэйка, Ул. Талочка, В. Родзька, Я. Бароўка, М. Пятроўскі, М. Шалькевіч, Фр. Аляшкевіч, А. Цікота, А. Аўгустыновіч, Н. Каралеўскі, В. Лукша, К. Стэповіч, Я. Славэцкі , Я. Дашута, М. Борык, Я. Леўковіч, В. Раманоўскі, Я. Даўкша, В. Шутовіч, Я. Германовіч, З. Якуць і інш. Віленскі беларускі гурток у каталіцкай духоўнай сэмінарыі быў кузьняй нацыянальна-рэлігійнай думкі. У гарне яе ўзмацавалася й загартавалася нутро Рэшэця, які пасьля 5 гадоў навукі ў сэмінарыі, выявіўшы вялікія здольнасьці гэтым разам у студыях лацінскай, грэцкай і гэбрайскай моваў ды атрымаўшы дыяцэзіяльную стыпэндыю на далейшыя навукі ў Рыме, туды падаўся ў 1913 г.”

У Рыме Язэп Рэшэць у Германікум бегла аваладвае нямецкай мовай, азнаямляецца з нямецкай культурай. Яшчэ ў 1915 г. атрымоўвае ён ліцэнцыят (ніжэйшая навуковая ступень) па філасофіі. Багаслоўскія навукі заканчвае ў 1919 г. у Грэгарыянскім універсітэце з навуковай ступенню доктара маральнай тэалогіі. А крыху раней, 2 снежня 1917 г. высвячаецца на святара кардыналам Пампілім. У 1918 г. пасля рэвалюцыі ў былой царскай Расіі Віленскі пасад прымае біскуп Юры Матулевіч. Якраз па ягонай волі д-р Язэп Рэшэць не вяртаецца ў Вільню, а працягвае навуку ў Германікум у Рыме ды Усходнім інстытуце. У тым часе з'яўляецца ён разам з доктарам Бобічам неафіцыйным прадстаўніком Беларускай Народнай Рэспублікі ў Ватыкане.

У 1921 г. д-р Язэп Рэшэць заканчвае Усходні інстытут, атрымоўвае ліцэнцыят усходняй тэалогіі і вяртаецца на радзіму ў Вільню. Як пісаў у амерыканскай „Беларускай царкве” кс. Я. Тарасэвіч: „Вось-жа вярнуўшыся ў Вільню а. др. Рэшэць у канцы 1921 г. знайшоў замест сваёй дзяржаўнасьці разгульле польскага дзікога нацыяналізму. Аб арганізацыі сваёй нацыянальнай Царквы так усходняга, як і заходняга абрадаў, ня было мовы” (там жа, стар. 39). Разам з тым як Віленскі пасад абымае ў канцы 1918 г. біскуп Матулевіч (літовец беларускага паходжання), канчаецца ранейшая прыхільнасць віленскіх каталіцкіх уладаў да беларусаў. А „Калі Вільня зь Віленшчынай была далучана да польскай дзяржавы, Матулевіч стаў вясьці палянізацыйную палітыку” (тая ж „Беларуская царква”). Атмасфера гэтага часу добра адлюстравана і ў віленскай каталіцкай „Крыніцы” ад 1912 г., якая, між іншым, пісала: „Далей біскуп (Юры Матулевіч, — Ю. Т.), няведама чаму, назначае ксяндзоў палянізатараў на беларускія парахвіі, як Даніловіча і Бобеля назначыў у Дзісьненскі павет, псуючы гэтым самым сьвятыя, запраўды хрысьціянскія пачынаньні біскупа Ропа. З многіх куткоў дыяцэзіі шлюць беларусы каталікі да свайго біскупа просьбы з мноствам подпісаў, каб іх ксяндзы гаварылі казаньні ў роднай беларускай

# РАЗМОВА АБ МІНУЛЫМ І БУДУЧЫМ

**Частка I**

Пазваніў мне нядаўна незнаёмы і сказаў, што ён беларус з Гайнаўкі, які чытае „Ніву". Размаўляў ён са мной па-польску, а сказаў наступнае: „Czytam pańskie artykuły. Zgadzam się nie ze wszystkim. Przyznaję, iż bardzo trafnie przewidział Pan los Komunistycznej Partii Związku Radzieckiego, jak i całego Związku Radzieckiego przepowiadając im upadek. Rzeczywiście tak się stało. Wobec tego niech Pan napisze, jak się ułożą dalsze losy byłego ZSRR? Jak Pan ocenia Gorbaczowa, a jak Jelcyna? Czy z Jelcynem nie stanie sie tak, jak z Gorbaczowem, a jeżeli tak, to kiedy"?

Усю гэту размову, як, зрэшты, і мой адказ, трактую не вельмі сур'ёзна. Справа ў тым, што я дамарошчаны „палітык", які разбіраецца ў палітычных справах прыблізна так, як першы-лепшы беларускі селянін на Беласточчыне. Дарэчы, вельмі часта сустракаю сялян, якія здзіўляюць мяне праніклівасцю сваіх палітычных поглядаў і меркаванняў. А што датычыцца мяне, дык у ніякім выпадку не з'яўляюся ні прарокам, ні футуролагам і не магу прадбачыць будучыні. Яшчэ паўтара года таму назад я быў перакананы, што Савецкі Саюз у нейкай мадэрнізаванай форме пратрывае дзесяцігоддзі, а так не сталася. Але сцвярджэнні аб тым, што Гарбачоў нанясе смяротны ўдар сістэме краін народнай дэмакратыі, камуністычным партыям у свеце, КПСС і ўрэшце Савецкаму Саюзу, мелі хутчэй за ўсё характар гульні палітычнага ўяўлення, чым рэальнага прадбачання.

І нягледзячы на гэта, усё ж хачу выказацца на тэму пытанняў майго гайнаўскага размоўцы.

Па-першае, як ацэньваю Гарбачова. Гарбачоў зрабіў не тое, што хацеў. Я перагляную нядаўна том матэрыялаў, прысвечаных XXVI з'езду КПСС. Сярод іх вядучае месца займае даклад і шматлікія выказванні Гарбачова. Усе яны напоўнены гарачай верай у перамогу камунізму не толькі ў Савецкім Саюзе, але і ва ўсім свеце. З дакументаў відаць, што Гарбачоў не толькі не думаў аб распадзе СССР, але быў перакананы аб узросце яго маналітнасці і магутнасці. З гэтага вынікае, што ён абсалютна не прадбачыў, што станецца на працягу найбліжэйшых гадоў. А калі так, дык Гарбачоў ніякі не палітык, а толькі палітыканцкі аматар. Думаю, што распад СССР наступіў не згодна з воляй Гарбачова, а насуперак яго волі. Хаця гэтага катэгарычна гаварыць нельга, бо да канца волі Гарбачова мы не ведаем. Калі я спытаў каля года таму назад аднаго амерыканца, за што Захад на ўсе лады хваліць Гарбачова, ушаноўваючы яго рознымі званнямі, прэміямі і ўзнагародамі, то мне адказаў прыблізна так:

„На працягу сямідзесяці гадоў існавання СССР Захад вёў з гэтай краінай беспардоннае змаганне. На антысавецкую інтэрвенцыю, на антысавецкую публіцыстыку, на антысавецкае радыё і фільм, на антысавецкія арганізацыі і на антысавецкі шпіянаж Захад выдаў, можа, шэсцьсот, можа дзевяцьсот мільярдаў долараў. А што дасягнуў? Нічога! Савецкі Саюз пашыраў свае ўплывы не толькі ў трэцім свеце, але і сярод найбагацейшых заходніх краін. Тое, чаго не мог зрабіць на працягу сямідзесяці гадоў увесь Захад, на працягу некалькіх гадоў зрабіў адзін Гарбачоў. Савецкі Саюз выразна хіліцца да ўпадку. Незалежна ад таго, колькі мы і ў якой форме дамо Гарбачову, гэта будзе мізер у параўнанні з тым, што мы безэфектна страцілі дагэтуль. Вось таму мы і славім і даем прэміі Гарбачову."

Думаю, што ў гэтых словах многа праўды.

А як я гляджу на Гарбачова? Гарбачоў сваёй неадказнай, некампетэнтнай эканамічнай палітыкай давёў СССР да поўнага гаспадарчага краху. Я СССР ведаю ад 1957 года. За гэты перыяд быў я ў СССР каля 150 разоў і хачу сказаць, што такой бяды, як пры Гарбачове, не было пры ніводным папярэднім савецкім правіцелю, уключаючы Хрушчова і Брэжнева.

І зразумела, што за поўны гаспадарчы развал трэба паставіць Гарбачову як найгоршую ацэнку. Тым болей, што ў 1986 годзе паабяцаў ён усім савецкім народам , што да канца дваццатага стагоддзя новай эры, гэта значыць на працягу 14 гадоў падвоім усю прадукцыю і што кожная савецкая сям'я атрымае самастойную добрую кватэру. Такія абяцанкі поўнасцю кампраметуюць Гарбачова як эканаміста. Ужо сёння вядома, што ў 2000 годзе народы былога СССР не дасягнуць узроўню прадукцыі з 1986 г.

І вось гэты страшэнны крызіс, які быў вынікам дзеяння Гарбачова, давёў да распаду СССР і ўзнікнення незалежных дзяржаў, што абсалютна не было намерам Гарбачова. Гарбачоў няхочучы давёў да ліквідацыі рускай імперыі і такім чынам незалежнасць Беларусі сталася рэальнасцю. Не магу быць яму за гэта няўдзячны, хоць зрабіў ён гэта несвядома.

Думаю, што за ліквідацыю рускай імперыі ўдзячны Гарбачову многія людзі на зямным шары. Аднак, не забывайма, што ліквідуючы ў Еўропе рускую імперыю, хто ведае, ці Гарбачоў не прычыніўся да стварэння ў гэтай жа Еўропе нямецкай імперыі. Я ўжо пісаў аб уз'яднанні Германіі і падкрэсліў, што нямецкая нацыя, як і кожная іншая, мае права да жыцця ў адной дзяржаве. Аднак, мы павінны памятаць аб тым, што многія еўрапейцы баяцца нямецкай імперыяльнасці і многія з іх думалі, што як доўга немцы былі падзелены і заняты сваімі ўнутранымі праблемамі, так доўга Еўропа зможа спаць спакойна. А сёння ёсць прычына да трывогі.

**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ**

# РАЗБУДОВА БЕЛАСТОЦКАГА ВАКЗАЛА

Больш дзесяці гадоў таму ў Беластоку архітэктары запланавалі ансамбль вакзальных будынкаў ПКС—ПКП. Сталася інакш. Грошай хапіла толькі на заканчэнне пабудовы аўтобуснага вакзала. Пабудова чыгуначнага чакае лепшых часоў...

У верасні мінулага года пачалася мадэрнізацыя і разбудова старога чыгуначнага вакзала. Усе кошты пакрывае Цэнтральная дырэкцыя акруговых дзяржаўных чыгунак у Варшаве.

Беластоцкі чыгуначны вакзал быў здадзены ў карыстанне ў 1862 годзе. Горад налічваў тады ўсяго 40 тысяч чалавек. Яго пабудова была звязана з заканчэннем пабудовы чыгункі з Варшавы ў Пецярбург. Ад таго часу некалькі разоў яго перабудоўвалі, але не была парушана яго асноўная структура. Зараз з'яўляецца ён помнікам старадаўнасці. Яго першапачатковы вонкавы выгляд будзе захаваны і зараз. Дабудаваныя памяшканні ў агульным не зменяць яго выгляду.

Рамонт і перабудову плануюць закончыць у канцы 1994 года. Зараз будуюць так званае левае (ад вуліцы Каляёвай) крыло вакзала.

Пасля разбудовы найбольш зменіцца вестыбюль (хол). Будзе пабудавана антрэсоль, а на ёй святліца і пачакальня. Падарожнікаў будзе абслугоўваць пятнаццаць білетных касаў і бар. Усюды сцены будуць з мармуровых плітаў, а падлогі — з граніту.

**ЯСЕНЬ**

********************************************

мове. Такія просьбы з подпісамі мусіць так і гінуць у біскупскай канцылярыі, бо ні адказу, ні дазволу не даецца. У Вільні ёсьць апошнім часам сем беларускіх пачатковых школаў, гімназія і прытулак. Дзяцей каталікоў беларусаў ёсьць даволі вызначны лік. Апрача таго ёсьць шмат беларусаў дарослых, якія ня ходзяць у касьцёл, бо адны не разумеюць па-польску, а другія не жадаюць, каб ім у касьцеле накідалі чужую мову. Дык вось падалі просьбы з подпісамі да біскупа, каб хоць маленькую каплічку даў беларусам каталіком у Вільні, дзе-б маглі маліцца, спавядацца і слухаць Слова Божае у сваёй мове. І на гэтыя просьбы біскуп Матулевіч не адгукнуўся...".

У той час пачынаюцца агульнавядомыя нападкі і ганенні на беларускіх каталіцкіх святароў. Прэса друкуе правакацыйныя нападкі на айца В. Шутовіча, настаяцеля ў Барадзенічах, дзекан Асціловіч дамагаецца ліквідацыі беларускай мовы ў касцёле, страшучы прытым людзей „бальшавікамі, праваслаўем і іншымі спосабамі", за беларусізацыю касцёла 26 чэрвеня 1921 г. улады арыштоўваюць у Барунах айца М. Пятроўскага ды зняволькваюць яго на віленскіх Лукішках. І тым не менш доктар Язэп Рэшэць вяртаецца восенню 1921 г. у Вільню. Біскуп Матулевіч вызначае яго прафесарам філасофіі і апалагетыкі ў Віленскай духоўнай семінарыі.

Як піша ў сваёй працы кс. Ян Тарасэвіч: „Малады праф. др. Язэп Рэшэць стаўся такім чынам першым (і апошнім) сьведамым беларусам-выкладчыкам у сэмінарыі. Ясная рэч, ня мог ён выкладаць па-беларуску, але стаўся духовай апорай беларускай моладзі ў сэмінарыі і іх духовым праваднікам. Ягоныя выклады высокага пэдагагічнага й навуковага ўзроўню захаплялі сэмінарыстаў ды гуртавалі іх вакол ягонай асобы, так што



слава аб ім хутка разьняслася па-за муры сэмінарыі".

Усё гэта не спадабалася адпаведным польскім кругам, якія забілі на трывогу. Найбольш дасталася біскупу Матулевічу, якога сталі абвінавачваць у тым, што ён не-паляк і вядзе „двайную палітыку" (як вядома, праводзіў ён дагэтуль паланізацыйную працу ў былой Заходняй Беларусі). У канцы кастрычніка 1921 г. эндэцкая „Жэчпосполіта" пачала траўлю біскупа Матулевіча з мэтай яго ачарнення. Прынясло, аднак, гэта адваротны вынік. Як пісаў кс. Ян Тарасэвіч: „Атакі з боку польскіх шавіністычных кругоў на Матулевіча ў некаторай меры яго ацьверазілі. Ён пераканаўся, што як не служы добра польскім інтарэсам, польскіх нацыяналістаў гэта не задавальняе. Таму ён перастаў варожа адносіцца да беларускага духавенства. У канцы 1921 г. дазволіў на адкрыццё беларускіх набажэнстваў у Вільні (вёў а. Адам Станкевіч), а ў 1923 — на адкрыцьцё беларускага марыянскага дому ў Друі, які хутка стаўся беларускім выхаваўчым асяродкам". У гэтым жа годзе ўзнікае ў Альбэртыне каля Слоніма місія а. а. езуітаў, якая, аднак, праводзіла, мякка кажучы, даволі спрэчную ў ацэнках працу сярод праваслаўнага беларускага насельніцтва, развіваючы унійную царкву.

Д-р Язэп Рэшэць прымае ўдзел ва ўсіх праявах тагачаснага беларускага жыцця. Ён піша артыкулы ў „Крыніцу", удзельнічае ў нарадах грамадскіх беларускіх арганізацыяў у Вільні, а таксама хрысціянска-дэмакратычнага накірунку ды неўзабаве вызначаецца прафесарам патрыстыкі тэалагічнага факультэта Віленскага універсітэта ім. Сцяпана Баторыя, вядзе навуку рэлігіі ў Віленскай беларускай гімназіі. Цікавіць яго, аднак, не толькі навука, але беларуская (ведаў на памяць шматлікія вершы Багушэвіча, Цёткі, Купалы, Коласа, Багдановіча і іншых) і сусветная літаратура, мастацтва, беларускія народныя песні, музыка, тэатр. У вольных хвілінах кс. д-р Рэшэць сам іграў на фартэпіяна розныя творы. Свабодна валодаў ён беларускай, польскай, расійскай, літоўскай, нямецкай, французскай, італьянскай, лацінскай, грэцкай і гебрайскай мовамі.

Палітычныя, аднак, падзеі бесперапынна ўрываліся ў асабістае жыццё ксяндза д-ра Язэпа Рэшэця, які прымушаны быў неаднакратна здзяйсняць драматычны для сябе маральны выбар. Так было і ў 1925 г., калі Польшча падпісала канкардат з Рымам, на аснове якога гаварылася, што ўжыванне беларускай мовы ў набажэнствах і катэхізацыі дзяцей з'яўляецца залежным ад згоды польскага епіскапату. Як пісаў кс. Ян Тарасэвіч: „Супраць гэтай несправядлівай палітыкі Польшчы, падтрыманай Рымам, выступіў з пратэстам перад Польшчай і Рымам урад БНР пад старш. Ластоўскага. Пратэст гэты падпісалі таксама а.а. Станіслаў Глякоўскі й Францісь Чарняўскі. Асобны пратэст супраць канкардату падпісалі: а. Абрантовіч, пралат Менскае капітулы, а. др. Я. Рэшэць, праф. Віл. сэмінарыі, а. В. Гадлеўскі — парах у Жодзішках і а. Адам Станкевіч — пасол у Сэйм".

У выніку ціску ў тым жа 1925 г. прымушаны быў зрачыся сваёй пасады біскуп Юры Матулевіч, месца якога заняў славуты паланізатар Рамуальд Ялбжыкоўскі — рашучы вораг беларушчыны. Поўны наступ на беларусаў павёў ён у супрацоўніцтве з уладамі ў 1927 г., выкарыстоўваючы момант масавых арыштаў сяброў Грамады ды цалкавітага яе разгрому. Ужо ў студзені 1927 г. перанёс ён а. Віктара Шутовіча з беларускай парафіі Барадзенічы ў польскую парафію на пагранічы з Мазурамі — Тшцяны, затым спрыяе арышту і асуджэнню польскім судом на два гады турмы настаяцеля Жодзіскай парафіі а. Вінцэся Гадлеўскага. Праследаванне з боку Ялбжыкоўскага не абмінула і а. д-ра Язэпа Рэшэця. Летам 1927 г. яго адхіляюць ад чытання лекцый у Віленскай духоўнай семінарыі і ва універсітэце ды пераносяць на выкладчыка рэлігіі ў сярэдніх польскіх школах ды настаўніцкай семінарыі ў Беласток — цэнтр нашага рэгіёна, а заадно — традыцыйнага месца ссылкі беларускіх святароў для мітрапаліта Ялбжыкоўскага.

**( працяг будзе )**
**ЮРЫ ТРАЧУК**

# Жыць беларускай песні!

наймалодшая ўдзельніца конкурсу Эля Мацкевіч з Гданьска, вучаніца другога класа ліцэя, з выступлення якой біла крыніца маладосці, радасці жыцця, веры ў будучыню, а ў гледача сапраўды стваралася ўражанне, што яна знойдзе сваю папараць-кветку, пра якую спявала; цудоўныя квартэты з Варшавы і Беластока, дуэт з Бельска Лідзія Маліноўская—Багуслава Карчэўская ды іншыя. Не было бельскіх „Васілёчкаў", але ці ж новая, меншая „Маланка" не даказала выразна, што не ў колькасці справа, і не выступіла настолькі моцна, што пакарыла не толькі слухачоў, але і журы?! А гайнаўскі хор, якім кіруе Анна Стрыха! Колькі далікатнасці, пачуцця, беларускасці ў іх спеве...

Журы вылучыла наступных лаўрэатаў:

### У КАТЭГОРЫІ АЎТЭНТЫЧНАЙ ФАЛЬКЛОРНАЙ ПЕСНІ

**група салістаў, дуэтаў, трыо і квартэтаў**

I месца не прызнана,

II заняла Ірэна Лукша з Семяноўкі,

III — Ніна Такаюк з Мікуліч,

**група харавых калектываў**

I месца падзялілі калектыў „Красуні" з Краснага Сяла (узнагарода рэдакцыі „Ніва") і жаночы калектыў з Арэшкава,

II месца прызнана калектыву з Дашоў,

III — калектыву са Старога Ляўкова,

вылучана жаночая група з Дабрывады.



*Ала Дубец спявала амаль ад пачатку.*

### У КАТЭГОРЫІ АПРАЦАВАНАЙ ФАЛЬКЛОРНАЙ ПЕСНІ

**група салістаў, дуэтаў, трыо і квартэтаў**

I месца прызнана трыо „Маланка" з Бельска,

II — дуэту Яўгенія Барысюк—Кастусь Селехановіч,

III месца падзялілі Люба Гаўрылюк з Беластока і Лідзія Маліноўская з Бельска,

вылучаны квартэт з Чыжоў,

**група харавых калектываў**

I месца калектыў „Маланка", які працуе пры Бельскім доме культуры (журы прызнала яму таксама кубак Беластоцкага ваяводы) падзяліў з хорам, які працуе пры Гайнаўскім доме культуры (журы прызнала яму кубак суполкі „Унібуд" з Бельска),

II месца падзялілі жаночая група „Маланкі" і жаночая група Гайнаўскага дома культуры,

III — жаночая група Беластоцкага аддзела БГКТ і жаночы актэт Гайнаўскага дома культуры,

вылучаны: мужчынская група з Гайнаўскага дома культуры, хор Беластоцкага аддзела БГКТ, жаночая група з Гарадка.



*Гала-канцэрты вялі Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко.*

### У КАТЭГОРЫІ СУЧАСНАЙ ПЕСНІ

**група салістаў, дуэтаў і трыо**

I месца заваявалі Эля Сушко з Варшавы і дуэт Лідзія Маліноўская—Багуслава Карчэўская з Бельска,

II — Ала Дубец з Санока і дуэт Анна Богус—Марыя Вярбіцкая з Беластока,

III — Эля Мацкевіч з Гданьска і дуэт Малгажата Грабоўская—Багдан Міранчук з Гайнаўкі,

вылучаны Юры Налівайка з




*Калектыў „Зорка Венера" з Варшавы.*



*Сярод слухачоў – міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка ( трэці злева ).*

-3-

# Дзеля долараў

Амерыканцы сталі наракаць на жыццё — краіна апынулася ў чымсьці накшталт эканамічнага крызісу. Знікла кан'юнктура ў амерыканскім бізнесе. Беспрацоўе сягае 6-7 %. Гэтага ўжо хапае, каб падняць гвалт. Затое японцы на амерыканскім рынку знакаміта даюць сабе рады. Змінімалізаваўшы да немагчымага кошты прадукцыі сваіх „Тайотаў" і „Міцубішы", паволі разбураюць амерыканскія аўтамашынныя канцэрны. Самі купляць амерыканскія аўты не квапяцца. Прэзідэнт Буш паехаў у Японію, каб растлумачыць ім, што так не робіцца, што гэта не fair. Як гэта закончылася, пабачыў увесь свет — містэр Буш папсаваў нагавіцы шэфу японскага ўрада, але сваіх правілаў гандлю не ўстанавіў. Падхапілі гэта адразу амерыканскія масавыя публікатары — а яны бязлітасныя — і сталі пакепліваць над прэзідэнтам, маўляў, якое здароўе ў галавы дзяржавы, такое і ў ейнай эканоміцы. Для Джорджа Буша гэта невясёлая перспектыва на 1992 год — год прэзідэнцкіх выбараў. Уражанне такое, што Буша не выберуць на другі тэрмін. І падумаць толькі, што дакладна год назад, калі амерыканскія marines задалі бобу войску С. Хусейна ў Кувейце, уся Амерыка была гатова насіць свайго прэзідэнта на руках. Але ў сусветным маштабе, як аказваецца, сёння вырашае не мілітарная, а эканамічная сіла. Японія, практычна, не мае арміі, усё яшчэ звязаная пасляваенным трактатам, і выглядае на тое, што мець яе не хоча. Цікава, што якраз японцы адмовіліся наадрэз спансараваць акцыю амерыканцаў у Кувейце. А амерыканцы, калі праз год прыйшоў на іх одум, заўважылі не без зласлівасці, што сапраўдная мэта акцыі на арабскай пустыні не была дасягнута — Садам сёння сядзіць на кабыле ўлады мацней, чымсьці сам Буш. Таксама нельга далей прыкідвацца, нібыта амерыканцы з дапамогай цэлага свету змагаліся ў Кувейце за дэмакратыю — у Кувейт вярнуліся прапуджаныя ірацкім войскам шэйкі, і ў краіне нанава ўсталяваўся феадалізм. Коратка кажучы, год 1992 для прэзідэнта Буша пачаўся надзвычай паскудна.

Але тое, што амерыканцам здаецца ледзь не пахілістым з'ездам у эканамічны крах, паводле нашых мерак крызісных сітуацый нявартае нават, каб змяніць сабе японскае аўта на польскае малалітражнае, не кажучы пра змену прэзідэнта. Фактам ёсць, што ўсё ў Нью-Йорку кажуць пра цяжкі час для Амерыкі, але ніхто пакуль што не змяніў сваіх спажывецкіх навыкаў; маўляў, бяда ідзе і трэба адкладаць грош на чорную гадзіну. У сацыялагічным плане — гэта няйначай грамадская вера ў непарушнасць эканамічнай магутнасці дзяржавы і ў мудрасць эканамістаў, якая ўсё ж такі пасля краху 1929 году навучыліся пазбягаць найгоршага.

Ніякім чынам гэты эканамічны неспакой не закранае цэлае масы гастарбайтараў на левых паперах у ЗША. Наадварот, болей і болей выбірае Амерыку як часовае (альбо і сталае) прыстанішча, дзе ўжо не вабіць палітычная свабода (дзе яе цяперака няма?!), а адно грошы. Нарэшце ўсё стаіць на сваім месцы. Калі ў палове кастрычніка мінулага года я апынуўся ў Нью-Йорку, якраз была закончылася каласальная па ўсіх прыкметах гульня — так званая эміграцкая латарэя. У газетах ужо заціхаў погалас гэтай імпрэзы — колькі ўдалося ўхапіць, пастараюся перадаць чытачам „Нівы".

Пару ладных гадоў назад амерыканскі кангрэс прыняў bill (закон) аб эміграцкіх квотах (закон датычыць якраз эканамічнай эміграцыі, якая мае магчымасць застацца на сталы побыт у ЗША й атрымаць амерыканскае грамадзянства). Закон, хутчэй за ўсё, падрыхтавала й праціхнула праз усю працэдуру ў кангрэсе ірландскае lobby, таму што эмігранты з Ірландыі маюць загарантаваныя 40 % ад усяе лічбы. Набор рабочае сілы адбываецца кожныя два гады шляхам латарэі. У мінулым годзе бралі 40 тысяч чалавек — ірландцаў, адпаведна, 16 тысяч. На другім месцы былі палякі (дакладнае лічбы не памятаю, але вельмі недалёка ад ірландцаў).


Спяваюць чыжоўцы.



Фальклорны калектыў з Арэшкава.

Беластока,

**група харавых калектываў і вакальна-інструментальных груп**

I месца заняў квартэт „Зорка Венера” з Варшавы,

II — маладзёжны квартэт з Беластока,

III — калектыў „Жаваранкі” з Гданьска,

вылучаны калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы” з Рыбалаў.

Прысутны на гала-канцэрце міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка выступіў з хвалюючай прамовай і прызнаў узнагароды Элі Сушко з Варшавы, Любе Гаўрылюк, Юрыю Налівайку і дуэту Анна Богус—Марыя Вярбіцкая з Беластока.

На заканчэнне гала-канцэртаў паказаў сваё майстэрства калектыў „Купалінка”, які працуе пры Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Спяваў на палескіх гаворках — амаль так, як гавораць на Бельшчыне і Гайнаўшчыне.

Вяла агляд 29 лютага Ларыса Дуброўская з Менска, а два гала-канцэрты, якія адбыліся ў нядзелю, 1 сакавіка, — Валянціна Ласкевіч і Мікола Бушко.

Цэнтральны агляд быў магутны і па колькасці ўдзельнікаў і па ўзроўню выканання. „Памятаю першыя агляды, — сказала наша заслужаная спявачка Люба Гаўрылюк, — выйдзе на сцэну некалькі бабуленек — маладых жа амаль не было. А цяпер!”

І сапраўды, цяпер у конкурсах беларускай песні бярэ перавагу маладосць. Моладзь з Беластока, Гайнаўкі, Бельска, Гданьска, Варшавы падкупляе публіку свежасцю выканаўства, музыкальнасцю, адукаванасцю. У іх менавіта наша сіла, радасць і надзея, бо яны — наша будучыня. Жыць, значыць, беларускай песні!

**АДА ЧАЧУГА**

**Фота**
**СЯРГЕЯ ГРЫНЯВіЦКАГА**


Беластоцкі віцэ–ваявода Аляксандр Усакевіч уручае кубак ваяводы кіраўніку бельскай „Маланкі” Сяргею Лукашуку.


Гайнаўскі хор ачараваў слухачоў сваёй далікатнасцю.

***

Можна сабе ўявіць шок амерыканцаў, калі яны даведаліся, што эміграцыйнае бюро атрымала звыш 20 мільёнаў лістоў з аплікацыямі на латарэю. Самім працы не хапае, а тутака татарская арда йдзе на Амерыку!

Рэч яшчэ ў тым, што прынамсі палова тых лістоў прыйшла ад людзей, якія ўжо жывуць у Амерыцы, але не маюць не толькі што амерыканскага грамадзянства, але і „зялёнай карткі” сталага побыту. Глянуўшы на справу са статыстычнага боку, амерыканскія эміграцыйныя ўлады пры нагодзе латарэі даведаліся практычна дакладна, колькі гастарбайтараў маюць у краіне. Ліку гэтага, наколькі мне вядома, да публічнага ведама не падалі. Каб карэнныя амерыканцы не ўпалі духам, хіба.

Для мясцовых аплікантаў быў вызначаны дакладна тыдзень часу, калі на адной выбранай пошце лісты прымаліся і былі потым рэгістраваныя дзеля латарэі. Лісты валілі валам увесь тыдзень, а на апошні дзень прадбачлівыя амерыканцы выставілі перад той поштай велізарныя кашы, так каб можна было ўкінуць ліст, скажам, праязджаючы аўтам. Але,зразумела, на апошні дзень праехаць тудою нельга было — тысяч дваццаць народу стаяла перад поштай і па завулках і ўсё яшчэ прадукавала аплікацыі. Як мне апавядалі, некалькі спрытных хлопцаў склалася на ксеракс і шпарыла аплікацыйныя бланкі тысячамі. Машынка не вытрымала і ляснула, дык яны купілі другую і далей працавалі — вярнулі сабе кошт ксераксаў і зарабілі, як кажуць, на хлеб і да хлеба.

Людзі, зразумела, пасылалі аплікацыі дзесяткамі і сотнямі, каб пабольшыць свае шанцы ў латарэі, як бы ні было, гульні чыстага выпадку.

Аднак жа наткнуўся разумны на недурнога. Калі нават і застанецца таямніцаю, як амерыканскай пошце ўдалося справіцца з гэтай навалай лістоў, то далей справа ў сваёй бязлітаснай яснасці выявіла ўсю наіўнасць аплікантаў, якія думалі, што амерыканская эмігранцкая латарэя падобная, скажам, на польскі Toto Lotek ці як там яно называецца. Амерыканцы пакавалі прозвішча і, праўдападобна, адрас апліканта ў памяць камп’ютэра, які адразу ліквідаваў кожны паўтор аплікацыі. Так што ў латарэі кожны меў дакладна такі самы шанц, ці ён выслаў адзін ліст, ці сотню. У гэтай імпрэзе пару дадатковых мільёнаў схапіла амерыканская пошта — марка на ліст унутры Амерыкі каштуе 29 цэнтаў.

Праз месяц часу першыя шчаслівцы пачалі атрымліваць паведамленні аб выбары іх на кандыдатаў у амерыканцы — цяпер застаецца адно пайсці ў амерыканскае консульства свае краіны й падпісаць нейкія паперыны. Зноў жа людзі сталі хвалявацца — а што, калі я паеду дадому, а назад мяне ўжо не ўпусцяць? Пакуль што не выглядае, каб дзеля гэтага неспакою былі нейкія фактычныя падставы.

Мы да гэтай пары гаварылі пра такіх, якія знаходзяцца ў Амерыцы „злёгку нелегальна” — скончыўся ім тэрмін важнасці амерыканскай візы і яны, паводле права, павінны пакінуць краіну. Гэта ёсць паўсюдная з’ява, і ніхто, уключна з эміграцыйнымі ўладамі, не дурыць галавы гэткімі дробязямі. Бывае, што табе трэба застацца даўжэй — часам на які дзесятак гадоў. Ну і што? Нічога. Аднак жа ўражвае факт, што жывуць тут людзі (з Польшчы напэўна, як з іншых еўрапейскіх краін — не ведаю), якія ўвогуле не маюць амерыканскай візы, таму што яе не атрымалі ў амерыканскага консула ў Варшаве ці дзе-небудзь. Той, хто хоць раз стаяў у чарзе па візу ў амерыканскім пасольстве, ведае, што не атрымаць візы — гэта, хутчэй за ўсё, правіла чымсьці выключэнне. Таму людзі камбінуюць інакш — бяруць сабе канадскую альбо мексіканскую візу. Дзе ўдасца. А потым ужо праз мяжу, як у сенсацыйным фільме. Кожны мае свой бізнес. Амерыканскія індзейцы зарабляюць, перапраўляючы гастарбайтараў лодкамі праз азёры, пра якія кожны з нас чуў у школе. Мексікансія індзейцы зарабляюць, пераводзячы людзей праз тыя тэхасы і кактусы. Бадай, найлепш пераехаць з Канады ў ЗША ў велізарным амерыканскім грузавіку, паміж скрынямі з макаронамі ці жаночымі майткамі. Мытнікі маюць дадатковы тавар на ўліку і мыта спаганяюць з шафёра. Цябе не турбуюць.

**ЯН МАКСІМЮК**

# НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ КАНФЛІКТЫ ВА УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ

19-20 лютага 1992 года ў Варшаве ў Інстытуце Гісторыі ПАН адбылася канферэнцыя на тэму нацыянальных канфліктаў ва Усходняй Еўропе.

На працягу двух дзён з дакладамі выступілі вучоныя з Польшчы, Літвы, Беларусі, Украіны, Францыі і Швейцарыі. Міжнародны форум вучоных разглядаў нацыянальныя праблемы ва Усходняй Еўропе ў аспекце мовы, рэлігіі, свядомасці і межаў. Як бывае на канферэнцыях, прысвечаных „модпай" тэме, не абыйшлося і без эмацыянальных выступленняў і дыскусій. 19 лютага былі прачытаны тры даклады, якія датычылі Беларусі. З рэфератам пра дзяржаўныя межы Рэспублікі Беларусь выступіў праф. Спартак Польскі з Менскага педагагічнага інстытута. Даказваў ён, што: „Республика Беларусь не имеет никаких территориальных притязаний к Польше, хотя имеет притязания к Литве, России и Украине". Сяргей Мацюнін (таксама з Пединститута) гаварыў пра рэлігійную сітуацыю ў Беларусі, прадстаўляючы вельмі цікавыя карты веравызнанняў у Беларусі. З рэфератам на тэму польска-беларускага пагранічча выступіў прафесар Анджэй Садоўскі з Беластока. Ягоны аналіз грамадскай свядомасці на Беласточчыне быў, бадай, адным з цікавейшых дакладаў гэтай канферэнцыі. Варта было б пакарыстацца яго доследамі і ў беларускай дзейнасці. У дыскусіі выступіў прафесар Ежы Тамашэўскі, звяртаючы ўвагу на розныя культурна-рэлігійныя ўплывы і іх скрыжаванне ў Беларусі. Голас узяў і старшыня БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, гаворачы на беларускай мове, — больш эмацыянальна, чым навукова. Беларускую частку канферэнцыі вёў Валерыюс Чэкмонас з Вільні (на беларускай мове). У зале аказалася даволі многа беларусаў з Варшаўскага асяроддзя.

Крыху прыкра было слухаць двух вучоных з Беларусі, якія ў сваіх дакладах карысталіся рускай мовай — як пазней аказалася, па нацыянальнасці яны расіяне.

Былі таксама даклады, прысвечаныя Літве і Украіне, ды агульным нацыянальна-этнічным праблемам.

У падсумаванні канферэнцыі гаварылася пра ролю вучоных у даследаванні канфліктаў ва Усходняй Еўропе. Хацелася б толькі пажадаць, каб навука ўсё ж такі засталася навукай, мэта якой — шуканне праўды. Навука не павінна паслугоўвацца ані „святой" праўдай, ані прапагандай ці публіцыстыкай. А канферэнцыя без гэтага не абышлася.

ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ

# ЛІТАРАТУРНЫ СЕМІНАР

Управа Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" запрашае на чарговы літаратурны семінар, які адбудзецца 15 сакавіка 1992 года (нядзеля), у 11 гадзін, у памяшканні Гуманістычнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта (Беласток, вул. Лінярская 4, пакой 42).

Тэма семінара — абмеркаванне паэтычнага зборніка Яна Чыквіна „Кругавая чара".

# Аб'ява

**Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы адступіць памяшканне плошчай 500—600 квадратных метраў, прыдатнае для вядзення гандлёвай (рознічнай і аптовай) ці вытворчай дзейнасці. Выручаныя за арэнду гэтага памяшкання грошы будуць выкарыстаны на заканчэнне пабудовы Музея.**

**За інфармацыямі можна звяртацца па адрасу: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

| | |
|---|---|
| 3886. Мікалай Патэюк (Бельшчына) | — 10.000 зл. |
| 3887. Віктар Вапа (Бельшчына) | — 10.000 зл. |
| 3888. Мікалай Тэрашук (Бельшчына) | — 10.000 зл. |
| 3889. Станіслаў Казбярук (Гайнаўка) | — 10.000 зл. |
| 3890. Мікалай і Вольга Нікалаюк (Курашава) | — 40.000 зл. |
| 3891. Анатоль Леанчук (Гайнаўка) | — 10.000 зл. |
| 3892. Ніна Семяняка (Гайнаўка) | — 5.000 зл. |
| 3893. Бажэна Давідзюк (Гайнаўка) | — 5.000 зл. |
| 3894. Ян Семянюк (Падрэчаны) | — 5.000 зл. |
| 3895. Мар'я Семянюк (Падрэчаны) | — 5.000 зл. |
| 3896. Ян Сяргеюк (Локніца) | — 5.000 зл. |
| 3897. Ян Давідзюк (Гайнаўка) | — 5.000 зл. |
| 3898. Мар'я Якімюк (Гайнаўка) | — 5.000 зл. |
| 3899. Ян Якімюк (Гайнаўка) | — 5.000 зл. |
| 3900. Альжбета Давідзюк (Гайнаўка) | — 5.000 зл. |
| 3901. Андрэй Аўласюк (Гайнаўка) | — 5.000 зл. |
| 3902. Надзея Андраюк (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 3903. Яўген Пашко (Гайнаўка) | — 10.000 зл. |
| 3904. Вера Койла (Гайнаўка) | — 10.000 зл. |

Дзякуем.

Наш адрас: Spoleczny Komitet Budowy Muzeum Zabytkow Kultury Bialoruskiej, 17-200 Hajnowka, ul. 3 Maja 42. Тэлефон 30-16.




Дарагое Сэрцайка! Не хацела б я быць вульгарнай, але ж табе людзі па-рознаму пішуць... Вось і я вырашыла папытацца ў цябе пра нешта.

Аднойчы мы сядзелі цэлай кампаніяй у кавярні. Гаварылі аб тым-сім. Хлопцы пачалі хваліцца сваімі поспехамі ў дзяўчат. Адзін сярод іх асабліва вылучаўся самаўпэўненасцю. Кажа, што скончыў з дзяўчынай, з якой хадзіў перад гэтым. „А што такое, такая ж прыгожая была", — зацікавіліся ўсе. „Уявіце сабе, якая гэта к..., — кажа ён, — запыталася ў мяне, што я ёй падару на 8 сакавіка, на жаночы дзень. А хто яна такая? Падумаеш, у кавярні з ёю пазнаёміўся! А ўжо такая важная".

Мы аж прыселі: „Ну, як жа так, ты ж з ёй быў блізкі і не лічыў яе к..., пакуль нічога не прасіла. Не адны ж прастытуткі сядзяць у кавярні. Зрэшты, калі была з табой у пасцелі, дык не была для цябе к..., а толькі тады ты ж мог бы выказацца такім чынам пра яе".

Хлопец гэты нават не засаромеўся. Хваліўся далей: „Цяпер во,— кажа,— маю дзяўчынку! Маладзенькая, прыгожанькая. Адна бяда — дзірачка замалая".

Іншыя хлопцы ў гэтым моманце насцярожыліся. Адзін з іх сказаў: „Не разумею, як гэта можа быць. Ну, калі б была завялікая, але замалая?.." Дзяўчаты грымнулі смехам. „Нічога, разапхнем!" — не супыняўся хвалько.

Мне было вельмі непрыемна слухаць усё гэта. Няўжо нават справы найпрыгажэйшыя можна так звульгарызаваць? Дзе ж тыя пачуцці, дзе далікатнасць?..

Ды і наогул, дзе тут праўда? Адзін наракае, што замалая „дзірачка", другі — што завялікая. Як гэта ёсць у сапраўднасці?..

Крыся

Крыся! Кампанія твая, гаворачы далікатна, была недалікатная. Пра такія справы ў публічных месцах людзі з тактам не гаворань. Той хлопец, што хваліўся, мо крыху дадаў, а мо і гаварыў праўду. Душы ў некаторых ужо так ачарствелі, што яны „валяць" праўду „проста з мосту". Нягледзячы на дзяўчат, на прыслухоўваючыхся збоку.

А праўда магла быць такая, што ў яго былі занадта вялікія „габарыты" палавога члена. Не з кожнай жанчынай такому добра — найлепш падыходзіла б яму негрыцянка (ізноў абапіраюся на чутках, а не на навуковых доследах). Другі ж хлопец, той, які надта здзівіўся, што першаму было зацесна, не мае такіх праблем. Яму можа быць толькі засвабодна! Шкада яго! Думаю, што цяжка будзе яму трапіць на такую, якую зможа задаволіць. Бабы, яны свайго дамагаюцца!

СЭРЦАЙКА




Астроне, мне 30 гадоў. Я яшчэ паненка. І вось прыснілася мне такое.

Стары сад (расце ўжо ў ім мала дрэў). Ён узараны. Шэры, асенні, травы няма. Ведаю, што гэта сад, але дрэў не бачу. Мы ўносім туды металічную труну. У ёй быццам ёсць нябожчык — нехта з сям'і, малое дзіця, але ў нас такога няма. Гады 4—5 яму. Не я. Можа, гэта мой брат. І вось гэта ўжо не сад, а могільнік. Мы збіраемся капаць магілу. Пад плотам стаяць нейкія людзі (каля сваёй магілы). Кажуць, што мы не можам сваю труну хаваць, бо ў ёй лялька, а не чалавек. Мы адварочваемся ад іх, адчыняем труну, а там — астанкі лялькі: адарваная галава, няма рукі. Мы хутка зачыняем труну, і я пачынаю капаць магілу пад самым плотам. Набіраю на лапату вязлыя кускі зямлі (яна вельмі мяккая). Выкідаю і выкідаю зямлю, а магіла не глыбее, бо зямля ссыпаецца паволі з бакоў, і я не магу ўставіць туды труну. Я ведаю, што хаця зверху дзірка малая, то ў сярэдзіне шмат месца, бо я ж ужо шмат зямлі выкінула. І я рашаю ўціснуць неяк тую труну ў выкапаную магілу. Я практычна яе ўпіхаю сілком, памагаю нагамі, каб яна хаця ўлезла, бо людзі ж глядзяць! Засыпаю пяском, пяску вельмі многа, нейкія анучы, прасціны, усё пхаю туды, каб магілу засыпаць. Што гэта такое?

Мірка

Мірка! Той стары, шэры сад сведчыць пра нейкую сумную справу для цябе. Ёсць у цябе нейкія клопаты. Думаю, што яны — сардэчнага парадку. Аб гэтым сведчыць тая труна, якая маладым прадвяшчае вяселле. Але з гэтым будзе ўсё не так проста. Справа ў тым, што ты не магла ўвапхнуць труну ў магілу, хаця капала і капала, а зямлі амаль не меншала. Шмат табе прыдзецца пахадзіць вакол справы твайго замужжаства, але надзея ёсць. Зямля была мяккая, ды ўрэшце ж увайшла труна ў магілу. Зрэшты, магіла прадвяшчае выйсце з цяжкога становішча. Хаця справу яшчэ крыху псуе тая паламаная лялька, якая была ў труне, дык анучы, якія ты пхала ў магілу з пяском, таксама могуць сведчыць аб нейкай урачыстасці, вяселлі.

АСТРОН

# Дзякуем!

Гады мінаюць, як хвіліны, і не заўважылі мы ў сваёй штодзённай мітусні, што стукнула нам, гэта значыць „Ніве", 36 гадоў ужо. Ну, што ж, апошнія першапачынальнікі, для якіх гэты дзень, дзень выхаду першай беларускай газеты ў Польшчы, меў асаблівае значэнне, паадыходзілі на пенсію, развіталіся ў нейкім сэнсе з намі, але не... чытачы!

Памятала аб гэтай знамянальнай для беларускага руху даце наша верная чытачка **Анна Стэльмашук** з Засцянак, што каля Беластока. 4 сакавіка прыйшла яна са сваім сынам у рэдакцыю. У руках трымала цудоўную вазонную кветку, якую прынесла, каб павіншаваць нас.

Ад усяго сэрца дзякуем!

РЭДАКЦЫЯ

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Дзве Анечкі–пралескі разбіваюць панцыр зімы.* **Фота У. Завадскага.**

## Для самых маленькіх

**Мікола Хведаровіч**

### ПРАЛЕСКІ

На сонечным узлеску
Апошні снег растаў.
Вясёлыя пралескі
Зірнулі з-пад куста.

Празрыста ззяюць вочы,
Нібы блакіт нябёс.
Халоднай веснай ноччу
Іх не кране мароз.

Пралескі на пагорку
Пад леташняй травой
Зіхочуць, быццам зоркі,
Агністай сінявой.

**Іван Муравейка**

### Я САМА

— Хадзі, будзем апранацца...
— Я сама! Я сама!
— Хадзі, будзем умывацца...
— Я сама! Я сама!
— Дык хадзі хоць прычашу я...
— Я сама! Я сама!
Вось умеліца якая
Наша Танечка малая!

## Прыгатуем пачастунак маме

**Салата „Паветраная".** Змяшаць маянэз са смятанай. Гэтай сумессю змазаць дно і бакі салатніцы, абсыпаць іх дробна нарэзанай цыбуляй. Трымаючы тарку над салатніцай, буйна надзерці спачатку яблыкі, затым вараныя яйкі, пасаліць і паліць часткай сумесі. Надзерці сыр і паліць рэшткамі маянэзу і смятаны. Упрыгожыць журавінамі.

*1-2 цыбуліны, 4-5 яблыкаў (кіслых), 5 яек, 200 г сыру, па 200 г маянэзу і смятаны, соль, журавіны.*

**Гарачыя бутэрброды**. Мясны фарш (можна выкарыстаць гатовы або ялавічны, лепш сумесь), дробна нарэзаную цыбулю, яйкі, соль, чорны молаты перац, воцат, добра перамяшаць. Батон нарэзаць скібкамі, на кожную пакласці падрыхтаваны фарш (слой фаршу павінен быць не танчэйшы за скібку), зверху пасыпаць пацёртым сырам. Пакласці бутэрброды на бляху і запячы ў духоўцы.

*500 г фаршу, 4 цыбуліны, 2 яйкі, 100 г сыру, 1 ст. лыжка сталовага воцату, соль, перац.*

**Клубнічкі**. Вафлі прапусціць праз мясарубку, змяшаць са смятанай, у якой раставорана дробка лімоннай кіслаты. З атрыманага „цеста" скачаць шарыкі, надаць ім форму конуса (клубнічкі). Бурак абабраць, вымыць, падраць на дробнай тарцы, адціснуць сок. Кожную клубнічку абмакнуць спачатку ў сок, затым у цукар. Гатовыя „ягады" замарозіць у халадзільніку.

*6 вафель (2 пачкі), 1 ст. лыжка смятаны, лімонная кіслата, цукар.*

## ПЕРШЫ РАЎЧУК

У глыбіні заваленага снегам лесу яшчэ ўладарыць зіма. А тут, на ўзлессі, ях перамагло ўжо сонца.

Каля магутнага дуба, што велічна стаіць на пагорку, бруіцца раўчук. Хоць яшчэ зусім маленькі і нясмелы.

Празрысты струмень вады, які выбіваецца аднекуль з-пад белай падушкі халоднага снегу, таропка перакочваецца цераз гарбаты корань дрэва, срабрыстай змейкай пабліскавае на яркім сакавіцкім сонцы і таропка падае ў равок пад дубам.

Тонкія галінкі арэшніку, на якія трапляла вада, пакрыліся на марозе празрыстым лёдам. Яны зябка трымцяць, б'юцца адна аб адну. І каля дуба чуваць ледзьве ўлоўны для слыху тонкі крыштальны звон: дзінь-лінь, дзінь-лінь...

Першай гэта мілагучнае пазваньванне пачула жаўтагрудая сініца. Яна села на суседнюю галінку і, гулліва пазіраючы па баках, весела заспявала:

— Вінь-цюнь-цінь! Вінь-цюнь-цінь!..

На сваёй птушынай мове яна паведамляла аб тым, што вось тут, менавіта пад гэтым волатам-дубам, нарадзілася вясна.

**Рыгор Ігнаценка**

## Прыгоды мышкі Пік-Пік

### ЯК МЫШКА ПІК-ПІК СУСТРАКАЛА НОВЫ ГОД

Мышка Пік-Пік чула ад Веранічкіных мамы і таты, што хутка настане Новы Год, і тады прыдзе Дзед Мароз з падарункамі. А ў падарунках, абавязкова, будуць цукерачкі. Мышка Пік-Пік была вельмі вучонай мышкай, і яна ведала, як выглядае Дзед Мароз: ён быў намаляваны на ўсіх навагодніх паштоўках, якія прыносілі ў кватэру. У Дзеда Мароза вялікая белая барада і вусы, чырвоная шапка, доўгі чырвоны кажух, у адной руцэ — доўгі кій, у другой — самае галоўнае — вялікі мех з падарункамі! І мышка вельмі чакала новага году.

І вось аднойчы вылезла мышка з норкі і адразу адчула пах мёду. Пабегла Пік-Пік на пах і ўбачыла ў куце залы сапраўдную ёлку, з рознакаляровымі шарыкамі і доўгімі бліскучымі ніткамі. А яшчэ на ёлцы віселі мядовыя пернікі, якія на кожны Новы Год пякла мама. Пернікі былі вельмі прыгожыя: пеўнікі, конікі, лісічкі, зайчыкі, сэрцайкі, домікі, анёльчыкі, зоркі. А як яны пахлі мядком! Усе яны віселі даволі высока, але на ніжняй галінцы гайдаўся вельмі спакусны зайчык. Сарвала яго мышка, і тут у дзверы пазванілі.

— Пэўна, Дзед Мароз прыйшоў, — надумала Пік-Пік і хутчэй пачала кусаць пернік, каб вызваліць лапкі для падарунку.

Каля ёлкі сабралася ўся сям'я — тата, мама, Веранічка, котка Пепіта. Паззвалі яны і мышку Пік-Пік, але яна сядзела пад ёлкай і душылася пернікам.

Дзед Мароз быў таксама сапраўдны — праўда, кія ў яго не было, але мех з падарункамі быў.

*Я да вас ішоў здалёк,*
*І цяжкі прынёс мяшок.*
*І цяпер ля ёлкі вашай*
*Хто мне вершыкі раскажа?*

— сказаў Дзед Мароз і патрос мяшком:

— Вось тут у мяне падарункі. Хто раскажа вершык — той і атрымае. Ну, дзе тут дзяўчынка Веранічка? Гавары мне вершык!

Але Веранічка спалохалася Дзеда Мароза, засаромелася і схавалася за маму. Дзед Мароз па-ўсякаму яе ўгаворваў:

— Я ж не халодны, я цёплы, я гарбату гарачую піў! Падыдзі, не бойся! Няўжо цукерачак не хочаш?

Але Веранічка не адчаплялася ад мамінай спадніцы і хавала тварык.

Мышка Пік-Пік, між іншым, даела пернік і цяпер была настроена вельмі рашуча. Яна выскачыла з-пад ёлкі, стала перад Дзедам Марозам і запішчала:

— Я раскажу вершык! Самы лепшы! Я паэтэса, я колькі хочаш вершаў напішу і раскажу! А ты, стары, цукеркі рыхтуй!

— Гэта хто? — здзівіўся Дзед Мароз.

— Гэта наша мышка Пік-Пік! — растлумачыла мама.

— Ну, добра, няхай хоць мыш мне нешта раскажа! - згадзіўся Дзед Мароз.

Тата прынёс з кухні зэдлік, пасадзіў на яго мышку, і яна прачытала верш:

*Новы Год, Новы Год,*
*Цябе чакае ўвесь народ.*
*Ты прыходзіш к нам зімой,*
*І ёлка з цацкамі з табой.*
*І Дзед Мароз прыходзіць к нам*
*З падарункамі дзецям!*

**( Працяг на стар. 10 )**

# Прыгоды мышкі Пік-Пік

( Працяг са стар.9 )

— Малайчына мышка! — сказаў Дзед Мароз і даў ёй цэлафанавы мяшэчак з цукеркамі. А Веранічцы зрабілася крыўдна, што Пік-Пік перш за яе атрымала падарунак. Перастала Веранічка хавацца за маму і сказала:

— А я таксама вершык ведаю!

— Ну, расказвай хутчэй! — абрадаваўся Дзед Мароз.

Веранічка таксама ўзлезла на зэдлік і пачала:

*Завіруха — завірэнь*
*Завявала цэлы дзень.*
*Хоць маленькія сняжынкі,*
*А схавалі ўсе сцяжынкі.*
*Ды ўсё роўна Дзед Мароз*
*Падарункі нам прынёс!*

— Ай да Веранічка! Добры вершык расказала! — і Дзед Мароз даў ёй падарунак.

Тады пакрыўдзілася Пепіта. Яна таксама хацела цукерак!

— І я, між іншым, вершыкі ведаю! — голасна сказала Пепіта і скасавурылася на Дзеда Мароза. Той развёў рукамі:

— Ну што з вамі зробіш?! Каты, мышы — усе вершы расказваюць! У вас, выпадкова, іншых жывёл няма?

— Ёсць, рыбкі! — сказала Веранічка.

— Што-о? — спалохаўся Дзед Мароз.

— Не бойцеся, яны цукерак не ядуць, — супакоіла яго Пепіта, ускочыла на табурэт і расказала верш:

*Цілі-бом, цілі-бом,*
*Загарэўся коткін дом.*
*Бяжыць курачка з вядром*
*Залiваць коткін дом,*
*Бяжыць зайка з ліхтаром,*
*А вавёрка з памялом —*
*Раз, раз, раз, раз —*
*І агонь пагас!*

— А чаму ў тваім вершы нічога няма пра Новы Год? — запытаўся Дзед Мароз.

— Які Новы Год? — абурылася Пепіта — У мяне дом гарэў, ледзь патушылі, а вы чапляецеся!

— Ну, добра, добра, — згадзіўся Дзед Мароз. — На і табе падарунак!

— А тата і мама без падарункаў засталіся! — закрычала Веранічка.

— Папярэджваю, цукерак у мяне больш няма! — усклікнуў Дзед Мароз.

— Ах, што вы! — сказала мама. — Мы з татам дарослыя, нам цукерак не трэба!

— Чаму ж гэта?! — запярэчыў тата. — А я б з задавальненнем з'еў цукерачку! Ці ўвогуле што-небудзь смачненькае!

Дзед Мароз уздыхнуў, але палез у свой мех, пакорпаўся ў ім і сказаў:

— Ну, добра, можаце і вы расказваць!

Мама зрабіла крок наперад, адкашлялася і прачытала:

*З Новы Годам! З Новым Годам!*
*З Новым снегам, з новым лёдам,*
*З даўнімі сябрамі —*
*Будзе шчасце з намі!*

— Вельмі прыстойна! — зазначыў Дзед Мароз і ўручыў маме апельсін.

— Цяпер я! — закрычаў тата. — Я гэтых вершаў столькі напісаў, што магу да наступнага Новага Года расказваць! Зараз, толькі ўспомню!..

Тата пахадзіў туды-сюды перад ёлкай, пацёр лоб і расказаў:

*Дзед Мароз прыйшоў да ёлкі,*
*На той ёлцы дзве іголкі!*

— Не, няправільна — хорам закрычалі ўсе.

— Ну, добра, зараз успомню дакладна:

*Дзед Мароз прыйшоў да ёлкі*
*І злавіў на ёй тры пчолкі!*

— Не, зноў няправільна! — закрычалі мама, Веранічка, Пепіта, Пік-Пік і Дзед Мароз.

— Ну што вам ўсё не падабаецца?! — абурыўся тата. У мяне цудоўная памяць. Зараз усё ўспомню!

*Дзед Мароз прыйшоў да ёлкі*
*І залётаў як анёлкі!*

— Усё, хопіць! — не вытрымаў Дзед Мароз. — Трымайце падарунак! — і даў тату яблык.

Пасля ўсе хадзілі карагодам вакол ёлкі і спявалі. А мышка Пік-Пік не магла спяваць, бо рот ў яе быў увесь час забіты цукеркамі.

Дзеда Мароза напаілі гарбатай, і ён пайшоў здаволены, хаця і з пустым мехам.

У гэты дзень мышка Пік-Пік бачыла салодкія і рознакаляровыя сны, і пра тое, што было, і трохі пра тое, што з ёй будзе ў наступным, напэўна, вельмі цікавым, годзе.






### ВОВАЧКА

На ўроку фізікі настаўнік, збіраючыся растлумачыць прынцып работы ГЭС, кажа:

— Ці ведаеце вы, дзеці, як людзі з дапамогай вады атрымоўваюць святло?

— Ведаю: трэба вымыць акно вадой, — падняў руку Вовачка.

* * *

— Не хачу ісці ў школу! — капрызнічае шасцігадовы Вовачка.

— Чаму?

— Таму, што мне скажуць: напішы „А".

— А чаму ж ты не хочаш напісаць „А"?

— Таму, што пасля гэтага мне скажуць: напішы „Б"!

* * *

Вовачка прыходзіць у клас з распухшай губой. Таварышы цікавяцца, што здарылася.

— Ды ў нядзелю мы каталіся з бацькам на лодцы, а мне на губу аса села.

— Ты б яе сагнаў!

— Не паспеў. Бацька яе вяслом забіў.

* * *

Маленькі Вовачка прыйшоў са школы і кажа маці:

— Мне сёння пашанцавала.

— Як?

— Настаўнік хацеў мяне паставіць у кут, але ўсе чатыры былі занятыя.

**(В. Б.)**

# У Менску спадабалася!

„Усё падабалася" — так найчасцей казалі тыя, што правялі тыдзень на зімніх канікулах у сталіцы Беларусі — Менску. Сярод іх былі вучні з Гарадка, Рыбалаў і Беластока, якія хочуць падзяліцца сваімі ўражаннямі з выезду ў „Зорцы". На жаль, яшчэ не ведаюць беларускай мовы так, каб самім напісаць, таму выручаю іх. А вось што яны расказалі.

Найбольш спадабаўся цырк. У Менску цырк — гэта вялікі будынак. Вельмі цікава было паглядзець, упершыню ў жыцці, балетны спектакль. Тэатральныя спектаклі ўспрымаліся па-рознаму. У Менску найчасцей наведвалі музеі. Некаторыя нават жартавалі, што іх у сталіцы Беларусі аж замнога. Аднак цікава было паглядзець экспанаты ў Музеі старажытнай беларускай культуры і ў Музеі прыроды на Траецкім прадмесці. А Траецкае прадмесце — гэта маляўнічы куточак горада, дзе захаваліся прыгожыя старыя будынкі. Там паглядзелі і Музей Максіма Багдановіча. Менск — гэта вялікі горад, у якім прыемна паездзіць падземнай чыгункай, значыць — у метро, дзе ёсць арыгінальныя станцыі і эскалатар. Была таксама магчымасць пакатацца на саначках з горкі і пагуляць у снежкі. Пабачылі нашы дзяўчынкі і хлопцы прыгожыя паркі і цудоўныя помнікі беларускіх пісьменнікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча.

Адбылася цікавая сустрэча з вучнямі беларускай гімназіі, на якой быў пісьменнік Артур Вольскі. Ён, дарэчы, напісаў словы „Калыханкі", што спявае Данчык. У гімназіі прымалі нас вельмі гасцінна: адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці гімназістаў, была наладжана дыскатэка, частавалі нас смачным пірожным. Адзін з нашых хлопцаў казаў, што двух гаспадароў трымала за рукі, а трэці піпрожнае клаў яму ў рот! І смакавала!

Некаторыя падкрэслівалі, што найважнейшым была заўсёды прыемная, дружная і вясёлая кампанія, і таму ўсе дні праходзілі цікава.

А на што наракалі? Усе сцвердзілі, што пабыўка ў Менску закароткая. Некаторым не падабалася, што ноччу трэба было спаць, калі хацелася яшчэ пашалець, а тут выхавацы заганялі ў ложак.

Бадай усе тыя, што былі, хочуць паехаць у Беларусь яшчэ летам. Аднак, трэба тут сказаць, што на канікулах перш за ўсё паедуць тыя вучні, якія вывучаюць беларускую мову. Хто хоча пабыць летам на экскурсіі ў Беларусі, няхай звяртаецца з гэтым да настаўніка беларускай мовы, або дырэктара школы.

**Ян Мордань**

## Добры дзень, дарагая „Зорка"!

Піша табе вучань 6 „А" класа сярэдняй школы н-р 2 г.п. Мікашэвічы Брэсцкай вобласці **Сяргей Гарбарчук**.

Раней на старонках мінскай газеты „Зорка" друкаваліся некалькі маіх вершаў і я быў пераможцам у конкурсе „Вясёлай вароны". Нават адзін з вершаў чыталі па радыё. Мне вельмі падабаецца займацца ў гуртку „Крынічка".

Мне хочацца табе расказаць крыху аб сабе, што мне падабаецца і цікавіць. Мне 11 гадоў. Збіраю маркі. Актыўна займаюся спортам — люблю гуляць у футбол. З задавальненнем чытаю кнігі аб прыгодах і фантастыцы. Магу расказаць аб гэтым многа цікавага. Сваімі думкамі і інтарэсамі хацеў бы падзяліцца з сябрам з суседняй краіны.

Падружы нас, „Зорка"!

Мой адрас:

Беларусь, 225610, Брэсцкая вобласць, г.п. Мікашэвічы, вул. Першамайская, д. 14, кв. 22.

**Гарбарчук Сяргей**



АДГАДАНКА

*Хто з вас створыць з гэтых найбольш новых лічбаў?*

# ВЕРСІІ ✷ КУР'ЁЗЫ ✷ СЕНСАЦЫІ

## РАЗВЕДЧЫКІ-ЗДРАДНІКІ

**(Працяг)**

Я не заснуў у гэтую першую ноч на свабодзе, — расказвае Аркадзь Шаўчэнка. — Раніцай, чуць свет, я памыўся, апрануўся і пайшоў у салон выпіць чорную каву. Ноччу прыехаў знаёмы амерыканец Берт Джонсан. За кавай мы пачалі абмяркоўваць, што мне рабіць далей.

Першы крок не цярпеў адкладу: неабходна было апярэдзіць абвінавачванні савецкага боку, што быццам бы амерыканцы падгаварылі мяне ўцячы. Каб даказаць, што ва ўсім гэтым выключна мая добрая воля, я павінен быў паехаць у які-небудзь горад, там зарэгістравацца ў гасцініцы пад сваім прозвішчам, наняць у часовае карыстанне аўтамашыну. Мае калегі не раілі мне начаваць у гасцініцы. Яны хацелі, каб былі рэальныя доказы таго, што я дзейнічаю па добрай волі.

Я выйшаў на прагулку. Свяціла яркае сонца. Я сапраўды быў вольны. З маіх плячэй быццам бы знялі цяжкі груз, які мяне душыў. За варотамі пейзаж быў спакойны, ясны. Мне захацелася пабегаць, як хлопчыку.

Аднак, трэба было ехаць у бліжэйшы горад. Я і мая ахова заехалі ў Вайт Хевен. Тут я зняў пакой у гасцініцы „Ховард Джонсан" і пакінуў у ім свой „багаж". Потым узяў я ў арэнду машыну. Такім чынам я зафіксіраваў сваё прозвішча, заявіў аб сабе як аб свабодным чалавеку.

Для перагавораў з Масквой, ААН і амерыканскімі ўладамі мне неабходны быў добры юрыст. Боб, Карл і Берт уручылі мне адрасы і тэлефоны лепшых юрыстаў у Нью-Йорку.

На другі дзень я пазваніў дзяжурнаму афіцэру ў ААН і сказаў, што я захварэў і некалькі дзён не будзе мяне на рабоце. Ён згадзіўся апячатаць мой кабінет — звычайная працэдура ў ААН. У прыёмнай Вальдхайма я дазваніўся да яго асабістага памочніка Фердынанда Майрхофера, аўстрыйскага дыпламата, майго знаёмага.

— Я дрэнна сябе адчуваю, і лекар параіў мне адпачыць дзень-два.
— Штo-небудзь сур'ёзнае? — спытаў ён.

— Ды не! Але, хочаш не хочаш, прыйдзецца пасядзець дома.
Каля дзевятай я патэлефанаваў Ліне. Мне неабходна было пачуць яе голас. Я не быў гатовы на тое, што адбылося. Трубку паднялі пасля першага званка.

— Да? — спытаў па-руску мужчынскі голас.

— Ліна? — Я нічога не разумеў.

— Её нет дома, — голас быў незнаёмы. Гэта не быў нават шафёр Нікіцін.
Я кінуў трубку. Я мог толькі здагадвацца аб тым, што адбылося. У галаву прыходзілі мне розныя думкі.

Ѓ так я быў разлучаны са сваёй сям'ёй. Адыход Ліны парваў апошнюю нітку. Яна, а гэта найбольш верагоднае, захоча астацца на тым баку. Дзеля таго, каб мая сям'я не пацярпела з-за мяне, г.зн. з-за майго пераходу на працу ў ЦРУ, я напісаў пісьмо Брэжневу разам з маёй афіцыяльнай адмовай вярнуцца ў Маскву па загаду. Мой адвакат Эрнест Грос згадзіўся перадаць мае пісьмы ў Савецкую місію.

Мінуў яшчэ адзін дзень. Аднойчы пасля абеда пазваніў Эрнест Грос. Саветы патрабавалі, каб амерыканскія ўлады наладзілі іх прадстаўнікам сустрэчу са мной. Я хацеў адмовіцца ад яе, але не ўсё было так проста. Я ўсё яшчэ быў савецкім грамадзянінам. Прадстаўнікі майго ўрада маюць права пераканацца, што са мною ўсё ў парадку, што мяне ніхто ні к чаму сілком не прымушае. Тады я згадзіўся на сустрэчу з пасламТраяноўскім. Ѓ каб не было пры тым ні кадэбістаў, ні консулаў.

Пасля абеда, пад час якога мы елі боршч, які я сам зварыў, я пайшоў спаць. На калідоры каля майго пакойчыка зноў была расстаўлена раскладушка. Перад сном я думаў пра сустрэчу з Траяноўскім. Потым мне прысніўся агент Драздоў, які прыйшоў мяне застрэліць, і я прабудзіўся. Больш ужо заснуць не мог. Падышоў я да акна, у якім чуць-чуць пачынала святлець.

Пра тое, што было далей, чытайце ў „Ніве" праз тыдзень.

**Апрацаваў**
**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷✷






## З ЯЕК

**Амлет па-румынску**

На 3 яйкі трэба ўзяць 3 лыжкі густой смятаны ці кіслага малака, 3 няпоўныя лыжкі мукі, 2—3 лыжкі пасечанай зялёнай цыбулькі, каля 2 лыжак масла ці шмальцу (амлеты вельмі смачныя на свежай саланіне), соль, перац.
1. Яйкі лёгка збіць з зялёнай цыбулькай, дадаць солі і перцу, збіць са смятанай,
2. Муку прасеяць у міску, памешваючы, дадаць яйкі са смятанай.
3. Масла ці шмалец разагрэць на 2 патэльнях, на малым агні, на кожную ўліць палавіну масы, смажыць з двух бакоў.
Падаваць з салатай і смажанай бульбай.
Прапорцыя для 2 чалавек.

**Амлет па-нямецку**

На 6 яек трэба ўзяць 40 дэкаў сырой белай каўбасы, 15-20 дэкаў сцертага на тарцы жоўтага сыру, 6 кавалкаў булкі, нарэзаных кубікамі, 1 пасечаную цыбуліну, 2 шклянкі малака, 1 лыжачку змеленай гарчыцы, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, соль, перац.

1. З каўбасы зняць скурку, раздрабніць яе, палажыць на халодную, сухую патэльню, смажыць на сярэднім агні. Дадаць цыбулю, пасаліць, пасыпаць перцам, гарчыцай і зялёнай пятрушкай, смажыць, каб цыбуля стала шклістай, тады зняць з агню.

2. Збіць яйкі з малаком і сырам, перамяшаць з кавалкамі булкі, дадаць каўбасную масу, перамяшаць.

3. Атрыманую мяшанку ўліць у бляшку, змазаную тлушчам, уставіць нанач у халадзільнік.

4. На наступны дзень каўбасна-сырную масу ўставіць у гарачую духоўку і пячы 45 мінут. Прабаваць нажом, ці амлет гатовы. Нож павінен быць чысты — тады амлет гатовы.
Падаваць з салатай, кіслым агуркам і смажанай бульбай.
Прапорцыя для 6 чалавек.

**Яешня па-балгарску**

На 6 збітых яек трэба ўзяць 3 сярэднія бульбіны, нарэзаныя тоненькімі скрылёчкамі, паўшклянкі сцертага на тарцы жоўтага сыру, 2-4 лыжкі смятаны, 1 лыжку масла, 2 лыжкі алею, 1/4 шклянкі пасечанай зялёнай пятрушкі, соль, перац.
1. Бульбу падсмажыць на алеі, павінна яна быць залацістага колеру.
2. Уліць яйкі, дадаць зеляніну пятрушкі, пасаліць, дадаць перцу, усыпаць сыр. Усё гэта асцярожна перамяшаць і смажыць крыху, тады ўліць смятану і смажыць яшчэ мінуты дзве.
Падаваць з хлебам ці булкай і салатай.
Прапорцыя для 4 чалавек.

**ГАСПАДЫНЯ**

**(Паводле кнігі Кацярыны Пасняшынскай „Якія часы, такая кухня" )**

### ПАДРОБКА ПАД АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА

Беларусы — гэта людзі не з жалеза.
Не бярэ іх ні халера, ні іржа,
і не шкодзяць ім чужыя інтарэсы —
і таму тут нежалезная мяжа!

Тут і свінні ёсць, і куры, і каровы.
Тут глядзіць і добра корміць іх народ.
Сто гадоў пра гаспадарку тут размовы.
Сто гадоў тут бульбу грузяць на усход.

Ні канава не трымае, ані яма.
Не палохаюць савецкія рублі.
Беларусы — гэта рускія таксама.
Так было і гэтак будзе на зямлі.

Супакоіцца шалёная планета.
Камунізм пабудуюць за гады.
Калі зробяцца паціху перад гэтым
беларусамі ўсе людзі назаўжды.

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

## РАЗМОВА НА ЧАСЕ

Пасля таго, як Мінгарсавет вярнуў гораду гістарычную назву Менск, а Вярхоўны Савет рэспублікі Беларусь у гэтым пытанні пайшоў на смычы былое партнаменклатуры, адзін з дэпутатаў ВС надумаўся даведацца, што думае пра гэта народ, і запытаў у старога калгасніка:

— Як ты, дзядзька, думаеш павінна называцца наша сталіца: Мінск ці Менск?

— Менск.

— Чаму?

— Таму, што так звалася гэтае месца спрадвеку.

— Дык жа раней гэты горад называўся Мінск.

— Так было. Але так звалі яго не беларусы, а чужынцы. А ці чуў ты, што народ кажа пра твой Мінск і другія нашы месцы?

— Не, не чуў.

— Дык слухай:

Справы кепска
ў Віцебска,
а ў Воршы —
яшчэ горшы.
у Бабруйску —
па-халуйску,
а ў Пінску —
ўсё па-свінску.
Як у Пінску,
так і ў Мінску.
Добра ў Менску
і ў Смаленску.
А ў Слуцку —
ўсё па-людску.
Добры весці
і ў Бярэсці.
У Наваградку —
ўсё ў парадку.
І ў Гародні
дзень пагодні.

— Хм! — хмыкнуў дэпутат. — Дык, кажаце, быў Менск? А хто ж і калі перамяніў яго на Мінск?

— А ты не ведаеш?.. Хаця, адкуль табе ведаць? Ты ў той час, мабыць, яшчэ ракам поўзаў.

— А Вы ведаеце? Дык скажэце.

— Апошнім часам літару „е" ў слове Менск замяніў на „і" ў канцы 1939 года партакрат-самадур Панкоў, які ў той час быў сакратаром Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Па ягонаму загаду зрабіла гэта і „Звязда", а за ёю і іншыя.

**Чуў размову**
**А. ЗДРОК**







*Мал. Ігара Варашкевіча.*

### З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Жонка хавала перад мужам грошы. Дзе не схавае, муж заўсёды знойдзе іх і прап'е. Урэшце рашыла схаваць грошы ў печ. Муж падгледзеў жонку, грошы забраў, наклаў у печ дроў і распаліў.

— Што ты нарабіў?! — закрычала жанчына. — Там былі грошы.

— Як былі, дык не будзе. Трэба было ў крэдэнс пакласці, — сказаў муж і пайшоў у карчму.

* * *

Адна жанчына, калі яе муж зрабіў штосьці не так, заўсёды гаварыла: „А што, я табе не казала, што так не рабі". Згневала яна гэтым свайго мужа і той рашыў схітрыць.

— Ведаеш, я пакінуў на панадворку малатарню і карова яе з'ела.

— А што, я табе не казала, не пакідай на панадворку малатарню, а то карова яе з'есць! — закрычала жонка.

— А карова малатарні есць? — спытаў муж.

**АЎРОРА**

**Гумар з барадою**

### ТЫДЗЕНЬ ГУЛЬТАЯ

У нядзелю не працуе,
Шчыра-шчыранька святкуе;
Панядзелак спачывае
Ды нядзелю ўспамінае.
У аўторак думаць трэба,
Што рабіць, у чым патрэба.
Серадою разважае,
Дзела - працу выбірае.
У чацвер збірае сілы —
Каб не лопнулі дзе жылы.
Ловіць пятніцай ахвоту —
Заўтра пойдзе на работу.
У суботу ж падлічае,
Што рабіў дзе, ды што мае.

**Улад. — Уніцкі.**
(*„Авадзень", 1926 год*)

## АНЕКДОТЫ

Жонка была ў санаторыі і пазваніла мужу:

— Як наша кошка?

— Здохла.

— Які жах! Няўжо ты не мог паведаміць мне аб гэтым далікатней! Напрыклад, яна, маўляў, сядзіць на даху. А ўжо потым бы ты сказаў, што яна ўпала і разбілася. Зразумеў?

— Цалкам.

— А як мая мама?

— Сядзіць на даху.

* * *

— Кастусь, чаму гэта Васіль да цябе перастаў хадзіць? — пытае жонка.

— А навошта? Ён кінуў піць.

* * *

Ён: — Ёсць адно слова, якое зробіць мяне найшчаслівейшым чалавекам на свеце. Ты пойдзеш за мяне замуж?

Яна: — Не!

Ён: — Вось яно, гэтае слова!

* * *

— Пажамы мне данесці рэчы да аўтобуснага прыпынку, — просіць бабуля свайго унука.

— А яны цяжкія? — пытае той.

— Лёгкія — лёгкія! — адказала бабуля.

— Ну, як лёгкія, дык самі данясеце.

* * *

Міхась да кума:

— Што б вы зрабілі, калі б знайшлі грошы?

— Ну, вядома, уцешыўся б, — адказаў кум.

— Я таксама такой думкі. А вось жонка мая сварыцца: я знайшоў грошы, уцешыўся, выпіў у буфеце, прынёс рэшту жонцы, а яна ўсё роўна лаецца.

— А дзе ж вы іх знайшлі? — пытае кум.

— За абразом, у пакоі.

* * *

— Ці мог бы я ўвечары затэлефанаваць вам? — пытае малады хлопец у знаёмай.

— Як хочаце...

— Але ці гэта будзе зручна? Я не разбуджу вас?

— О, не турбуйцеся — у мяне няма тэлефона...

**Падборку зрабіў**
**ЯСЕНЬ**

## КАСЯК НА „Х"

**Управа:** 1) грубасць, нахабнасць, бескультурнасць, 3) быццам косць, але мяккі, 5) верхняе адзенне кухара або лекара, 7) хата за вёскай і ўчастак вакол яе.

**Улева:** 2) мае клешчы, лямец, кішку і супоню, 4) маці, якая не нарадзіла, але не мачыха, 6) там, дзе правіць хан, 8) прыслужнік.

**„ядань"**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з н-ра 5. Управа:** ручка, рэчка, ратунак, рот, рашэнне, раманс, рымар, рыск. **Улева:** рух, рэактар, рамка, розум, радыкал, рэжым, разнік, рапс.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Лявон Федарук з Рыбалаў і Ірэна Лукша з Семяноўкі.

**************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1992 r. upływa 20 maja 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..
Cena prenumeraty miesięcznej:
- kwiecień - 12 000 zł.
- maj - 15 000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.